Зазімак... Сымбалі роднага краю

З любоўю да ўлоння

№5 (14)
Кастрычнік 1998

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік

## Тэмы нумара





Фота: Аляксандр Гутоўскі

## Беларусь-адыёзус, ці Беларусь — краіна зялёных каштоўнасцяў?

На пачатку 90-х пра Беларусь у свеце мала хто чуў. Прыязджалі й здзіўляліся: "Дык вы ж ёсць! А мы не ведалі". Маўляў, тут у вас і гарады, і народ, і дзікая прырода... Сціплыя вы, беларусы.

Цяпер ведаюць куды больш. Але не пра нашы гарады, не пра нашу нацыянальную спадчыну, не пра нашы біясферныя каштоўнасці, якія ў нас ёсць. Краіна за апошнія гады прыдбала славу, якая нікому й не снілася. "Беларусь — адыёзус",адным словам.

Крыўдна? Вельмі. І вельмі балюча. Кажу пра гэта з тае нагоды, што цяперашняя ўлада спрабуе завабіць на наша айчыннае ўлонне замежных турыстаў. З'ява цікавая, ці не праўда? Цікавая тым, **хто** паедзе і **што гэта** будзе за турызм? Напраўду, з'ява. З'явішча.

Мой нядаўні суразмоўца, прафесар, якому я распавёў пра валютныя паляванні на запаведных тэрыторыях, з'едліва заўважыў па-руску: "Дичь идет на дичь". Сумны экспромт, адказаў я. "Трагедыя, — прызнаўся ён.

Няма сакрэту ў тым, што сёння шматлікія турысты старонящца наведваць нашу краіну. Раней, дарэчы, заўсёды знаходзілася прычына, чаму не едуць. Маўляў, няма санітарных зручнасцяў, адпаведнага сервісу і г.д.

А ці ёсць *адпаведны*, кажучы моваю дыпламатаў, ідэнтытэт? Тое, па чым пазнаецца краіна, яе візітная картка, нейкая асаблівая памятка, вобраз?

На жаль. Хіба маглі што добрае дадаць да ўяўленняў пра Беларусь як дзяржаву непаразуменні ў Драздах, іншыя скандальныя гісторыі, выказванні, сведчанні?

Чалавек, які чытае прэсу, слухае навіны або сядзіць у Інтэрнэце ў сваіх Канах, можа ўзгадаць пра Беларусь як пра адыёзную, гэта значыць, агідную кропку на карце.

Год таму, спрабуючы пахіліць грамадства да рарытэтаў — прыродных каштоўнасцяў Беларусі, наша газета пісала: *"... варта ўсім падумаць, як зрабіць, каб шырокі свет ідэнтыфікаваў Беларусь не з рогам раз'ятранай злыгі, а з прыгожай рагатаю галавою белавежскага зубра ў квяцістым вянку першароднае флоры".*

Мы не былі наіўныя, калі гэта пісалі. Пакуль ёсць грамадства, народ-- застаецца надзея.



Валерый Дранчук

**BELARUS ODIUSUS, OR BELARUS - LAND OF GREEN VALUES?**

*In order to develop international biosphere tourism, we must strive to create a positive image for the country rather than destroying it. The author of this issue's editorial feels this could only be possible by altering Belarus' political orientation.*

*Газета выдаецца па ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс", падпісны індэкс 63267, 63317
Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук
Для кантактаў: 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16
Тэл. (017) 236-50-76, факс 220-23-53
The founder and Editor-in-chief Valery Dranchuk
Contact: Ivanauskaya St. 38-16 220088 Minsk Belarus
fax (375 172) 20-23-53*

## Дыялог на актуальную тэму:

Нацыянальны *турыстычны* прадукт: арыгінальныя вартасці ці танныя падробкі? Як устаяць перад *уладным* прагматызмам? Запаведная глуш: сёння — абсалютная, заўтра -*прамзона.*



Удзел бярэ вядучы спецыяліст Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Здіслаў Мураўёў.**

с. 4-5, 12-13

КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА пішыце тэлефануйце пытайцеся КОЛА

***Анталогія*** *ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*

# Стрэсен апошні арэх, кветкі завянулі ўсе...



* зазімак. Фота: Валерый Дранчук

***Басё***
*Японія. XVII ст.*

З сябрам у доме ягоным
Слухаю ціха звон вечаровы.
Падае вербавы ліст.

***

Апала лістота.
І свет нечакана патух.
Вецер адно гудзе.

*Сабраліся ноччу, каб любавацца на снег*

Вось-вось запануе снег,
На тварах спакой і чаканне...
Ды раптам — зімовая бліскавіца!

***

А вам не да смутку,
"Птахі саракагоддзя" — сарокі.
Вы мне нагадалі пра старасць.

*Вучню*

Сягоння і ты адчуеш,
Што ў мяне на душы старэчай!
Восень, імжа, туман...

***Аркадзь Куляшоў***

* * *

Завея лісцяў у сняжынак пух
Перацвітае пад маім наглядам,—
Як быццам я камандую парадам,
Спатканнем дзвюх варожых завірух,

Змаганнем снегападу з лістападам.
Як быццам я ўладар дарог і рэк,
Рэгуліроўшчык каруселі гэтай,
Як быццам не праносіў над планетай

Мяне лістком, сняжынкаю, ракетай
Праз атмасферны цiск суровы век.
Быў пылам я ў імклівым карагодзе
Гадоў, трухой і зернем на таку,

Хацеў бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе –
З дваццатага ў трыццатае стагоддзе.

1962

***Апалон Майкаў***
*Расія*
*(1821-1897)*

*Восень**

Лёг ужо лісця сувой
Густа паўзверх верасоў...
Смела тапчу я нагой
Весняе гожства лясоў.

З холаду твар мой шчыміць;
Добра між дрэў мне гайсаць,
Слухаць, як голле трашчыць,
Лісце нагой заграбаць.

Не да ранейшых пацех
Зараз мне тут. Пакрысе
Стрэсен апошні арэх,
Кветкі завянулі ўсе.

З моху груздоў не тырчаць
Болей чародкі, гурткі;
Больш каля пнёў не вісяць
Гронак брусьнічных вянкі.

Доўга на лісці ляжыць
Ночы мінулай мароз.
Холадна зверху глядзіць
Яснасць празрыстых нябёс...

***Васіль Зуёнак***

* * *

Жыў у мяне ядловец,
Я прывык да яго, як да сябра.
Мог яму ў нечым адмовіць,
Мог пакалоцца з ім храбра.
Ды быў у адным я верны:
Як некуды ў сцюжу падзецца,
Як сівер люты заверне —
Я клікаў у хату — пагрэцца.
Я спадзяваўся: за гэта
Ён птушку прынадзіць вясною,
З ёю гняздо на лета
Саўе, каб спяваць са мною.
Так і трывалі... Ды раптам
Ядловец мой стаўся лішнім:
І вельмі калючы характар,
І цень наводзіць на вішні...
Не быў я пры выкарчоўцы,
Але ўсё бальней карціць:
Няма ў мяне больш ядлоўцу,
І птушка не прыляціць.

***Марк Шагал***

*Пра гэтую яснасць***

Бог мой, за гэтую яснасць,
якой ты душу маю насяліў,
дзякуй.

Бог мой, за гэты спакой,
якім ты душу маю насяліў,
дзякуй.

Бог мой, ноч настае,
да досвітку зводзіць павекі мае,
і я намалюю нанова
карціны Табе
пра зямлю і нябёсы.

***Ханс-Юрген Хайзэ***
*Нямеччына ****

*Прадвесце*

Учора забілі
апошніх ваўкоў

Трыумф, перамога
Дзікай прыродзе капец

Цяпер запануе сад
Усюды яблыні і газоны

Так думалі мы

А ў дамах пад падлогай
ладзілі гнёзды палёўкі
прадвесніцы
новай пусткі.

***Ханс Бёрлі***
*Нарвегія ****

***

Чалавек ёсць праяваю хворасці.
Поўная невылечнасць. Адно што –
шукаць застаецца сродкі,
каб зменшыць балесныя страты.

*Каля шашы*

Вялікія дробныя беды,
нямыя сведчанні
зямных будзённых трагедый: вавёрка
на асфальце, раздаўленая ўсмешка
на акрываўленай пысачцы...
Хто зважае на гэтую дробязь,
калі навокал равуць конскія сілы?
Хто гэта бачыць? Нашыя вочы
залішне суровыя і неспагадныя.
Мы праносімся міма –
у галаве ўсё разлічана
і спланавана. Шлях напрамкі.

***Віталь Прошча***

* * *

Мелодыя голых дрэваў.
Скрыпка з кларнетам і флейтай.

Мокрыя сцежкі алеяў.

Водгулле даўніх залеваў
За краявідамі лета.

Чуйныя кроны алеяў.

*Пераклады:*
** Іван Івашка*
*** Рыгор Барадулін*
**** Валерый Дранчук*

***Мікола Купрэеў***

* * *

Калі разумець не хочаце
свежасць, зялёную
цішыню –
не чапайце мой лес.
Калі разумець не хочаце,
як ранне сіняе б'е ў акно –
не чапайце мой бэз.
І калі з далоні спакойна
зерне дзяўбуць галубы—
галубоў вы маіх не чапайце!
І калі я па дарозе іду
і шчасця ўсім вам хачу –
вы, калі ласка, мяне
не чапайце!

***Надзея Артымовіч***
*Беласточчына*

* * *

ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак

сон аднакрылы і лёгкі
у блакітным люстры

стаю
хвіліна прыгажосці
акіян хараства
хвіліна

веру ў вечнае хараство
веру ў адно нявыказанае слова
веру ў белае маўчанне

вечар у Бельску – камень і крыж
вечар у Бельску – блакітны туман

Бельск – ікона малітва сон жыццё

***Валерый Дранчук***

*У Белавежскай пушчы*

Я прымяраю твой кажух,
у ім і вусцішна, і цёпла.
І маладых сняжынак цокат
у заінелым капытку.

Вякуе пушча.

Трэск галля,
зары агністая палоска,
на снезе кропка, кропка, коска —
адбітак порсткага крыла.

І не загоіцца ўспамін
начнога ветру ў леснічоўцы.
...Трапеча полымем камін,
і кнот абвугліўся ў газоўцы.

Аблокны рокат вершалін.
Даволі. Ноч. Мой голас кволы.
Здалёк вызвоньваюць шумёлы,
як незагоены ўспамін.

***Мікалай Рэрых***
*Расія*

*Святло****

Хлопчык, з сардэчнай журбою
ты сказаў мне, што дзень карацейшы
зрабіўся, што рана прыходзіць вечар
і пачынае сутонець.

Гэта дзеля таго, каб новая
радасць узнікла:
вітаць нараджэнне святла.
Я ведаю гэтую радасць.
Радасць, якая прыходзіць.

Набяромся цярпення, мой хлопчык,
і будзем чакаць яе. А цяпер,
калі дзень карацее,
заўсёды
на сэрцы туга,
з якой мы праводзім
святло.

SUMMARY

**This issue's poetry page includes works by Basyo from Japan, Maykova from Russia, Björli from Norway, Heise from Germany, Chagall, as well as Belarusian writers.**

# ТУТ HERE

# Дзяржаўная дача ў Віскулях

## У снежні 1991 года тут былі падпісаны гістарычныя белавежскія пагадненні. Сціплы будынак класічнага стылю стаў месцам "развалу" Савецкага Саюза.

*Уладзімір Пугач*



* архітэктар Бакланаў, праектуючы ў 1957 годзе будынак лясной дачы для знаці, мог звязваць ягоны лёс хіба што з паляўнічымі, а не палітычнымі залпамі.

**Б**елавежская пушча вышэй за палітыку; пагатоў – за палітыку, якая густа замешаная на імперскасці, на знішчэнні й заняволенні, на ідэалагічным дыктаце і парушэннях чалавечай свабоды.

Аднак палітыка ніколі не абыходзілася без Белавежскай пушчы. Снежань 1991-га нагадаў пра гэтую наканаванасць, якую наўрад ці можна ўважыць за справядлівую ў дачыненні да Пушчы.

Аднак Пушча, кажуць, не памыляецца, нават калі гісторыя вырашыла пажартаваць. Прынамсі, дэнансацыя пагадненняў, змацаваных 8 снежня 1991 года, пра якую мараць далёкія ад "зялёнага" руху палітыкі, загадзя марная і асуджаная.

Год таму ці крыху раней Віскулёўскі будынак дзяржаўнай дачы стаў турыстычным аб'ектам. Паломніцтва, праўда, няма, але жаданне ўбачыць на свае вочы і сам "палац", і апартаменты, і гэтую мясціну выказваюць многія наведнікі Пушчы.

Што да будынка, ён не вылучаецца пыхай. Сярод цішыні, у глыбіні лесу, не вышэй за асобныя выносныя сосны, што абступаюць яго з усіх бакоў. Сярэдзіна будовы таксама не ўражвае. Лесвіцы, холы. Вока яшчэ зачэпіцца за сякую-такую мэблю, карціну, дэталь немудрагелістага ўбранства.

Збудаваная дача ў 1957 годзе паводле праекта Міхаіла Бакланава. Сёлета распачата яе рэканструкцыя. У інстытуце Белдзяржпраект, які вядзе работы, мне сказалі, што выгляд будынка не зменіцца.

Музейная экскурсаводы, як правіла, нешматслоўныя, бо аб'ект усё ж спецыфічны, звязаць яго з той ці іншай біялагічнай асацыяцыяй цяжка. Хіба што імёны Ельцына, Краўчука ды Шушкевіча так і застануцца "зубрынага" роду.

Аднак здараюцца экскурсіі і празмерна палітызаваныя. Вядома, у залежнасці ад аудыторыі і асобы гіда. Аднойчы мне давялося быць сведкам, як перад групай прамыслоўцаў з СНД давераны экскурсавод на ўсе лады ганьбіў "здраднікаў", што падпісалі "развальны" дакумент. Можна было толькі й пашкадаваць, што ён не ў думскай фракцыі Зюганава, а ў навуковым аддзеле нацыянальнага парка.

Яго б *там* паслухалі!

А я, слухаючы, падумаў пра Беларусь. Пушча -- **яе**, гонар **яе**, багацце **яе**, веліч **яе** – а нехта дазваляе сабе адмаўляць ёй у самастойнасці ды годным гаспадарстве.



* падчас рэканструкцыі дачы палітычная архітэктоніка будынка наўрад ці саступіць цалкам экалагічнай або нейтральнай.

Але Пушча вышэй і за палітыку, і за даверанаых экскурсаводаў. Увогуле, падумалася яшчэ, для палітычных змоваў, гішэфтаў, разбораў лепш пашукаць іншае, болі прыдатнае месца.

Знак духоўнага ўзвелічэння нацыі, гуманістычнага паяднання людзей на ідэі прыродалюбнасці, служэння сваёй зямлі й сваёй Бацькаўшчыне быў бы нашмат бліжэй Белавежскай пушчы, пагатоў цяпер, калі тут нацыянальны парк – асаблівa *ахоўная* прыродная тэрыторыя. Магчыма, ахоўная і ад палітыкі. ✪



* сцяг-наватвор, які замяніў над будынкам гістарычны бел-чырвона-белы сцяг, — быццам дакор таму, што адбылося тут у снежні 1991-га.

Фота: Неруш-прэс

SUMMARY

***T**he state dacha in Belovezhskaya Pushcha reserve which hosted the signing of the famous Belovezhskaya agreements in 1991 has now become a tourist attraction. However, the author notes the current danger of nature conservation issues being squeezed out of the national park by political propaganda with its nostalgic excursions into the Soviet past.*

# Беларускі турыстычны прадукт яшчэ не знойдзены, але хутчэй за ўсё ён мае выгляды нашых зялёных ваколіцаў

## Паводле тэзісаў дакладаў для міжнароднай канферэнцыі "Выкарыстанне прыродных тэрыторый у рэкрэацыйных* і турыстычных мэтах: экалагічныя аспекты (снежань 1998, Мінск)

***Вакол тэрміна "экалагічны турызм"***

Калі на экатурызм глядзець як на з`яву, дык варта канкрэтызаваць сэнс гэтага тэрміна, слушна заўважае даследчык *Аляксандр Тарасёнак* (Белдзяржуніверсітэт). Ён фіксуе ўвагу на экалагізацыі ўжо існуючай турыстычнай прапановы, калі з асяродкаў абслугоўвання выключаецца ўсё, што можа зашкодзіць здароўю турыста, першнаперш, паводле аўтара, матэрыялы і прадукты, але нязменна дасканаліцца тое, што можа паспрыяць паляпшэнню паслугаў. Экалагічны турызм, уплываючы на пэўныя рашэнні, здольны гарманізаваць стасункі грамадства і прыроды ў двух накірунках: *біясферным* (пазнавальна-аздараўляльны, на ўлонні прыроды) і *прыродна-зваротным** (удзел у грамадскіх акцыях пад прыродаахоўнымі лозунгамі). Плюс вольны час людзей і "прыродакарыстанне без прысвойвання".

У якасці аб`ектаў біясфернага экатурызму аўтар бачыць найперш ахоўныя мясціны, сярод іх нацыянальныя паркі, дзе можна з вялікай карысцю спалучаць ціхі адпачынак і "зялёную" асвету. Гэта з часам дасць магчымасць пераключыць традыцыйныя віды адпачынку з заснаваных на эксплуатацыі прыродных рэсурсаў у біясферны экатурызм.

***Задача***

Прадаваць свае турыстычныя паслугі трэба будзе перш за ўсё на еўрапейскіх рынках, перасцерагае кандыдат архітэктуры дацэнт *Георгій Баранец*. А там яны, як ведаем, выглядаюць не бедна -- вочы разбягаюцца ад багацця й разнаякасці. Таму сёння, на пачатку шляху, важна не капіяваць узоры, што ёсць ў свеце; копіі непараўнальна таннейшыя за арыгіналы. Дый прадаваць іх куды цяжэй. У нашым выпадку мы рызыкуем атрымліваць нават не копіі, а танныя падробкі, якія прадаць будзе ўвогуле немагчыма. Задача ў тым, каб знайсці такую нішу, якая б дала магчымасць годна канкураваць на міжнародным рынку. У рэшце рэшт, паўстае неабходнасць вынайсці нейкі новы арыгінальны турыстычны прадукт.

Мы схільныя ганарыцца адно тою спадчынай, зазначае далей Т. Баранец, якая ацалела, якую мы аддана шануем і што больш ці менш адпавядае нашаму ўяўленню пра аб`ект павышанага турыстычнага попыту. Але звыкла забываемся, што туриста вельмі часта вабіць тое, чаго ён штодня не знаходзіць блізу сябе -- іншая прырода, іншыя разлеглacці, іншая культура ды, у рэшце рэшт, новы досвед.

***Змены паводле схемы***

Развіццё экатурызму і адпачынку на ўлонні прыроды рэальна пагражае захаванасці каштоўных экалагічных сістэм, прытулкаў і ландшафтаў, чысціні навакольнага асяроддзя, лічыць Г.Баранец Прыродныя асяродкі зведваюць шкодны ўціск як падчас будаўніцтва, так і падчас эксплуатацыі аб`ектаў турызму і адпачынку. Любая будоўля звязана з канфіскацыяй і выдаткаваннем зямельных рэсурсаў і ў рэшце рэшт можа выклікаць змены гідралагічнага рэжыму мясціны, эрозію глебаў, знішчэнне альбо істотнае парушэнне прыродных раслінных комплексаў. На прылеглай тэрыторыі паступова з`яўяцца сметнікі, звалкі адходаў. Прывабныя прыродныя ландшафты пачнуць зыначвацца, мізарнець і канчаткова знікаць. Дзе была цішыня, будзе галас, на месца спакою заступіць дакучлівы громазд чалавечага сноўдання. Прадукаванне камунальна-пабытовых адходаў запануе над калісьці цудоўным краявідам і хутчэй за ўсё ператтворыць яго з эстэтычнага ў тыпова-шэры ці антыэстэтычны.

Гэтыя змены даволі заканамерныя, заўважае магістр геаграфічных навук *Маргарыта Жукава* (Белдзяржуніверсітэт), яны патрафляюць агульнай схеме прыродапарушэнняў і злому экасістэм. Усялякая дзейнасць чалавека, у тым ліку турызм і адпачынак, парушаюць раўнавагу экасістэмаў, якая ёсць дзецішчам эвалюцыі.

***Падставы для раўнавагі***

Заклікі да захавання экалагічнае раўнавагі *наогул*, бадай, не маюць сэнсу, мяркуе кандыдат навук *Барыс Дыскін* (Бел НДІ горадабудаўніцтва), бо гэта не ёсць жаданым паказнікам. Такая раўнавага магчымая пры любой ступені антрапагеннага ўмяшання, штораз на новай фізічнай ды біялагічнай падставе. Лепш і больш правільна казаць пра захаванне або дасягненне яе *найспрыяльнага, найадпаведнага* ўзроўню. На гэта й павінна арыентавацца прыродаахоўная дзейнасць у рэкрэацыйных зонах, улічваючы перш-наперш найбольш далікатныя складнікі прыроднага асяроддзя, а таксама тып і кшталт адпачынку на ўлонні прыроды.

***Дзве праблемы***

Беларусь, дзякаваць Богу, мае досыць багатую прыродную спадчыну. На яе рахунках -- унікальны экалагічны капітал. Перш-наперш гэта нацыянальныя паркі, запаведнікі, іншыя ахоўныя прыродныя тэрыторыі. Іх скарыстанне ў інтарэсах турызму, а таксама адсутнасць вопыту ў арганізацыі і кіраванні нацыянальнымі паркамі ставяць сама менш дзве праблемы. Першая датычыць захавання гэтых абшараў *дзеля* турызму і адпачынку, асабліва перад націскам гаспадарнікаў ды супраць уплыву гаспадарчых аб`ектаў (аб`ектаў абслугі); другая паўстала з неабходнасці як мага асланіць тэрыторыі *ад* турыстаў і ахвотнікаў адпачыць на прыродзе (М.Жукава).

***Факт статыстыкі***

У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у зоне радыяцыйнага забруджання апынуліся мясціны адпачынку і курорты агульнай плошчай каля 280 тыс. гектараў або 16 працэнтаў ад тэрыторыі, зарэзерваванай на гэтыя мэты (Г. Баранец).

***Ландшафты Беларусі: каштоўныя ці... самыя трывалыя?***

З гледзішча рацыянальнага прыродакарыстання, даводзіць *Галіна Марцінкевіч* (Белдзяржуніверсітэт), ландшафты Беларусі можна падзяліць на дзве групы: *каштоўныя* (79 працэнтаў плошчы Беларусі) і *вельмі рэдкія, выключныя* (каля 21 працэнта). Унікальна рэдкія ландшафты маюць шэраг прыкметаў: абмежаваная распаўсюджанасць ("толькі тут!"), разнаякасць краявідаў, непаўторныя формы рэльефу, геалагічныя адклады, месцазнаходжанне маляўнічага возера, рэдкіх відаў флоры і фауны, эстэтычная прывабнасць ваколіцаў. Кожная рыса ёсць падставаю для развіцця ахоўных і рэкрэацыйных мерапрыемстваў, наладжвання турыстычна-экскурсійнай работы.

Валодаючы пэўнымі разлікамі, Г.Марцінкевіч тут жа зважае на залежнасць трываласці (устойлівасці) ландшафта ад характару й моцы нагрузак (вядома ж, антрапагенных); мауляў, што да індустрыі адпачынку на ўлонні прыроды і яе ўздзеяння на ландшафты Беларусі, апошнія, на думку аўтара, ёсць "устойлівымі або слаба ўстойлівымі". Праўда, аўтар не абыходзіць і выключэнняў, што паказвае на асаблівую далікатнасць пытання.

** ад лац. recreatio -- адпачынак*

*** А.Тарасёнак называе гэты кірунак як прыродна-рэгенерацыйны (рэгенерацыя -- аднаўленне, зварот)*



** на здымку Яна Булгака (1876-1950) бачым адзін з тыповых беларускіх краявідаў. Ці многа такіх засталося, ці дастаткова рупімся, каб "ген" беларускасці не знік з аблічча нашай зямлі?*



***Угледзімся ў фатаграфію...***

*Яе аўтар, экатурыст **Аляксандр Гутоўскі**, які вярнуўся з чарговага падарожжа, пасведчыў: "На маршрутах зрэдчас сустракаюцца сем"і. Першае, што адчуваеш: радасна за дзяцей, у якіх такія незвычайныя цудоўныя бацькі! Вось як у гэтых двух хлопчыкаў, што глядзяць у аб"ектыў. Думаю, такі досыць смелы паход па лясной рэчцы Дрысе стаў для іх маляўнічай незабыўнай падзеяй. Магчыма, нават першым выпрабаваннем... Шкада, не пазнаёміліся бліжэй. Сустрэча была нечаканай. Можа, хіба што, праз публікацыю у газеце... Фатаграфію абяцаю..."*

*Напраўду было б няблага, калі б знаёмства адбылося. Як закончылася вандроўка? Якія ўражанні ў дзяцей? Дый наогул, якія думкі, развагі, меркаванні пра адпачынак на "экалагічнай сцяжыне"? Спадзяёмся атрымаць ліст або тэлефонны водгук.*

*са старонкі 4*

***Заданне на дом -- экскурсія ў лес***

Неабходную частку ведаў па экалогіі вучні павінны атрымаць у класе, мяркуе *Уладзімір Ганапольскі* (навукова-даследчы інстытут фізічнай культуры і спорту, Мінск). Каб дабраць астатнюю і найбольш грунтоўную частку, трэба выходзіць са школы -- ісці ў лес і поле, да рэчкі і возера, на чыгунку і аўтадарогу, на вытворчую тэрыторыю... Ніякага іншага сродку экалагічнай практыкі, апроч турыстычна-экскурсійнай дзейнасці, не існуе, лічыць аўтар. Вядома ж, майстэрствам такога выхавання павінны дасканала авалодаць настаўнікі. Але турыстычна-педагагічнага кампанента адукацыі ў навучальных праграмах педустаноў пакуль што няма, заўважае Ул. Ганапольскі.


SUMMARY

***What state is recreational biosphere tourism in now, and what are its prospects for development in Belarus? A conference will be dedicated to these questions at the end of the year. The newspaper presents varying points of view, and accuses the current administration of controlling funds made from ecotourism in nature reserves, pp 4-5, 12-13.***


# Устаяць перад сілаю ўладнага прагматызму

## Здзіслаў Мураўёў: "Мы робім прыкладна тое, што іншыя краіны рабілі 100 гадоў назад. Розніца ў тым, што яны шчыра памыляліся, а мы свядома паўтараем чужыя памылкі".

*На пытанні карэспандэнта "БП" адказвае вядучы спецыяліст Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Здзіслаў Мураўёў.*

**— Здзіслаў Феліксавіч, шчыра кажучы, у мяне апошні час усё больш абвастраецца супярэчлівае пачуццё, з якім успрымаю сённяшнія гаворкі пра экалагічны, рэкрэацыйны і прыродапазнавальны турызм. Як быццам абмяркоўваем сапраўды экалагічныя аспекты, а на справе бачым, што ў вузкай групы людзей інтарэс зусім іншы — як мага скарыстацца нашымі прыроднымі багаццямі дзеля так званага "акумулявання валютных паступленняў"...**

**Чый тут інтарэс, нам не трэба здагадвацца. Абрыдла паўтараць адно і тое ж імя, якое зрабілася ледзь не сінонімам грубага ўладнага прагматызму: узяць! Пад "навукова-абгрунтаваную тэорыю сумяшчэння рэкрэацыі з аховай прыроды" чыніцца сумнавядомае гаспадарчае асваенне (а часам і прысвойванне) ціхіх куткоў Беларусі. Ведаю, што Вы, Здзіслаў Феліксавіч, заўсёды мужна выкрывалі такі падыход, лічылі яго заганным і небяспечным для справы захавання нацыянальнай спадчыны.**

**Якія ў Вас аргументы на сённяшні дзень?**

— Па-першае, хачу сказаць, што я падзяляю Вашу трывогу і клопат. Са свайго боку дадам: рэкрэацыйна-турыстычнае асваенне найбольш заўзята і спешна ідзе на прыродных тэрыторыях, якія маюць асаблівa ахоўны статус, – у нацыянальных парках і ў Бярэзінскім біясферным запаведніку. Такая тэндэнцыя і такі курс. Становішча сапраўды насцярожвае.

Па-другое. Гэтых, найбольш каштоўных тэрыторый у нас зусім не багата, — усяго 6,9 працэнта. Прычым, пераважную долю складаюць

*Працяг на старонцы 12*



*Браслаўшчына. Краявід.*

*Кастрычнік 1998 года.*
*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

# Адпачынак на ўлонні прыроды

## Развагі і перасцярогі вядомага амерыканскага эколага і паляўніцтвазнаўца Олда Леапольда здольныя не адно ўспалашыць наш грамадзянскі беларускі дух, -- яны выклікаюць пытанне-набат : «Мы гэтага хочам?»



*Чытачы газеты, хто яшчэ не знаёмы з імем Олда Леапольда, маюць магчымасць адразу ўзысці, бадай, на вяршыню ягонай спадчыны -- кніга "Каляндар пясчанага графства", урывак з якой друкуецца, -- адна з лепшых кніг аб прыродзе, этычным стаўленні да яе. Тонкі развважлівы назіральнік, захоплены паляўнічы, прафесіянал-лесазнаўца, О. Леапольд спалучаў яшчэ якасці выдатнага інтэрпрэтатара сваіх поглядаў і талент пісьменніка.*
*Ён глыбока перажываў разбурэнне прыроды. Шукаў і бачыў прычыны -- у недастатковай экалагічнай адукаванасці людзей, у адсутнасці этыкі стаўлення да біялагічнай спадчыны.*
*Олда Леапольд на дзесяцігоддзі апярэдзіў уяўленні сваіх сучаснікаў. Калі мець на ўвазе наша так званае постсавецкае грамадства і нашы сённяшнія арыентацыі і ўяўленні -- гэтая дыстанцыя застаецца значнай; высновы эколага, якія пабачылі свет на пачатку 50-х, па-ранейшаму здзіўляюць сваёй надзённасцю.*



Запаведныя месцы дзікай прыроды даюць нам мажлівасць найперш хоць бы ў выглядзе спорту трымаць дзеяздольным той комплекс мужных прыёмаў, дзякуючы якім чалавек мог вандраваць ды існаваць у некранутай цывілізацыяй глушыні.

Хоць у прыватнасцях гэтыя прыёмы былі прыстасаваныя да амерыканскіх варункаў, аднак яны застаюцца агульначалавечымі – і тое ж паляванне, і рыбалка, і пешыя вандроўкі з заплечнікам. Увогуле, падарожжы на каноэ ці з уючным канём па гарах былі спакон амерыканскімі...; іх пераймалі ў іншых краінах, але пра поўнае развіццё можна казаць хіба што маючы на ўвазе наш кантынент. Аднак яны хутка сыходзяць у забыццё. Індзеец Гудзонавае затокі мае цяпер «тука-тука-тука», а ў нагорца ёсць «форд». Калі б і мне давялося здабываць хлеб надзённы з дапамогай каноэ альбо таго ж каня, я пераняў бы вопыт індзейца і горца, бо мяне пахіліла б да гэтага вельмі цяжкая праца. Але мы, падарожнікі, кіруючы ў дзікую глуш дзеля прыемных уражанняў, трапляем у недарэчнае становішча, калі нас прымушаюць канкурыраваць з механізаванымі сурагатамі. Нейк бязглузда валачы на сабе каноэ пад акампанемент імклівых маторак або пусціць кабылу пасвіцца на прывале пад вокнамі гатэля. Ці не лепш застацца ўжо дома.

Кавалкі дзікай прыроды – гэта і магчымасць захаваць мастацтва падарожжаў з іх першаісным выглядам, асабліва што датычыць каноэ і коней...

Еўрапейскія спартыўныя паляўнічыя і рыбаловы ўжо не маюць таго, што ў нас магло б ацалець, калі б мы захавалі дзялянкі дзікай прыроды. Еўрапейцы не разбіваюць лагераў, не вараць сабе яду і не абслугоўваюць сябе ў лесе, калі могуць без гэтага абысціся. Чорная работа выпадае на долю загоншчыкаў ды прыслугі, **бо гэтыя паляванні падобныя больш на пікнік, чым на разведку першароднай прыроды.***

Спаборніцтва ў зухаватасці абмяжоўваецца пераважна здабычай дзічыны ці рыбы...

Механізаваны адпачынак ужо завалодаў дзевяццю дзесятымі ўсіх лясоў і гор, а таму элементарная павага да меншасці патрабуе, каб адна дзесятая рэшты, што засталася, была аддадзена дзікай прыродзе.

Адпачынак на ўлонні прыроды ператварыўся ў праблему на пачатку стагоддзя, калі чыгункі... пачалі масамі давозіць гаражан да ціхіх нялюдных куткоў неабжытай мясцовасці. Хутка зразумелі, што чым больш ахвотных далучыцца да прыроды, тым меншы на статыстычную душу рацыён спакою, бязлюднасці, дзікіх жывёл і прыгожых пейзажаў.

Аўтамабіль распаўсюдзіў гэтую калісьці не вельмі небяспечную мясцовую з`яву там, дзе ёсць ніштаватыя дарогі, -- і глуш згубіла тое, на што яшчэ нядаўна была багатая. А гэта штурхала да новых пошукаў. Па пятніцах з кожнага горада ва ўсе бакі імчаць патокі ахвотных. **Турыстычная прамысловасць гарантуе пасцель і стол, каб новыя орды імкнулі, прарываючыся, далей – хутчэй і глыбей.** Рэклама на скалах, над рэчкамі тлумачыць усім ды кожнаму, як дапяць да новых зацішных прытулкаў, пейзажаў, паляўнічых угоддзяў, рыбных азёраў – на месца тых, якія ўжо загрувасціў натоўп ахвотных. Бюро будуюць дарогі праз новую некранутую дрэму, а затым скупляюць наступныя глухія атулкі, бо няўмольна настае іх чарга: новыя дарогі азначаюць і новае нашэсце. Прамысловасць выпускае ўсё новы і новы рыштунак. І вось, нарэшце, вянец гэтых бясконцых прыстасаванняў – прычапны дамок! Для чалавека, які шукае ў лясах, на гарах толькі тое, што даюць падарожжы з даборам рознаўсяляkіх зручных звыкласцяў, такое становішча болей чым цешыць. А для тых, хто схільны да іншага адпачынку, -- паварочваецца пакутлівым працэсам пошукаў недасягальнага, цяжкім падманам механі-заванага грамадства.

> **Самае вялікае адкрыццё XX стагоддзя – не тэлебачанне і не радыё, а прызнанне ўсёй складанасці арганізма зямлі.**
>
> **Олда Леапольд (1887-1948)**

Адступленне дзікай прыроды пад наступам механізаваных турыстаў – зусім не мясцовая з`ява. Гудзо-нава затока, Аляска, Мексіка, Паў-днёвая Амерыка ўжо разбураюц-ца, падаюць. Чарга за Паўднёвай Амерыкай...

Адпачынак прынята ўважаць за эканамічны рэсурс. Сенацкія камісіі багавейліва нам даводзяць, на колькі мільёнаў трацяцца людзі, каб яго дамагчыся. Эканамічны бок адмаўляць ніяк нельга – невялікая дача на рыбным возеры або нават купіна на качыным балоце могуць каштаваць столькі, колькі ўся бліжэйшая ферма.

Ёсць таксама этычны бок. У патужнасці як мага завалодаць нерушам выпрацоўваюцца свае кодэксы і запаведзі. Нас вучаць, «як трэба паводзіць сябе на прыродзе». Мы вучым гэтым поглядам моладзь...

Тым не менш зразумела, што такія эканамічныя і этычныя праявы – толькі наступствы матывацыі, але не яе прычыны. Мы шукаем судакранання з прыродай, таму што яна дорыць нам задавальненне. Як у оперы, эканамічныя механізмы скарыстоўваюцца дзеля таго, каб ствараць і падтрымліваць неабходныя ўмовы; як і ў оперы, прафесіяналы зарабляюць на жыццё, ствараючы й падтрымліваючы іх. Але было б памылкай думаць, быццам сама прычына існавання оперы носіць эканамічны характар. Паляўнічы на качак у схове і оперны спявак на сцэне, хоць і розняцца экіпіроўкай, робяць адно і тое ж. Кожны іграе, увасабляючы драму з рэальнага жыцця мінулага.
У рэшце рэшт, абодва ўпадаюць у эстэтычныя практыкаванні.

... Абагульняючы, можна сказаць, што масавае выкарыстанне дзікай прыроды зніжае якасць такіх трафеяў, як дзічына і рыба, а таксама прычыняе шкоду іншым рэсурсам – напрыклад, няпромысловым жывёлам, адвечнай раслліннасці і сельскагаспадарчым культурам.

Здабыванне «ўскосных» трафеяў, накшталт фатаграфій, не звязана з паніжэннем якасці і прычыненнем шкоды. Малявідны пейзаж, штодзень адлюстраваны дзесяткам турысцкіх фотакамер, ніякага фізічнага ўрону наогул не нясе, гэтак жа не пацерпіць ён,

* *Тут і далей адзначана рэдакцыяй.*



нават калі яго шчоўкнуць сотню разоў...

Як бачым, **уздзеянне масавага скарыстання можа быць настолькі прынцыпова розным, як і дзве катэгорыі аб'ектаў, якія здабываюцца ў якасці трафеяў.**

Цяпер паглядзім на яшчэ адзін кампанент актыўнага адпачынку, больш тонкі і складаны – адчуванне самотнасці сярод прыроды. Аб тым, што яно робіцца каштоўным і дэфіцытным, высока шанаваным многімі людзьмі, сведчаць шматлікія спрэчкі й дыскусіі. Напрыклад, неабжытую глуш вызначае бездараж, і шасэ будуюцца толькі да яе межаў. Аднак потым участкі такой цішы рэкламуюцца, як нешта ўнікальнае, ды яны і ёсць унікальнымі. Але хутка ўсе сцежкі біткам забітыя, і ўжо растуць патрабаванні адкрыць паветраныя зносіны, а нечаканы пажар вымагае рассекчы каштоўны кавалак папалам дарогай дзеля доступу пажарных машын. Або з-за наплыву турыстаў, прывабленых рэкламай, уладальнікі і праваднікі падвышаюць кошты, пасля чаго нехта робіць выснову, што захаванне першаснай глушы – недэмакратычнае. Або мясцовая гандлёвая палата, якая адразу не раскусіла такую навінку, як лясная глуш з афіцыйным цэтлікам «дзікая», рассмакуецца турысцкімі грашыма і пажадае іх як мага больш. Тут ужо будзе не да глушы. Джып і самалёт – спароддзе няспыннага ціску людскоё масы – пакладуць канец усялякай надзеі на якую-кольвек самотнасць сярод прыроды.

...Масавае скарыстанне кладзе канец усялякай самотнасці, **і калі мы гаворым пра шасэ, турыстычныя лагеры, сцежкі, санітарныя зручнасці як «развіццё» магчымасцей дзя адпачынку, мы хлусім...** Падобныя выгоды для натоўпу нічога не развіваюць – у тым сэнсе, што яны нічога не дадаюць і не ствараюць. Наадварот. Усё гэта вада, якую льюць у суп, які ўжо і так на вадзе.

Пяройдзем да наступнага кампанента – усприымання прыродных працэсаў, дзякуючы якім зямля і ўсё жывое на ёй набылі свае асаблівыя формы (эвалюцыя), а таксама падтрымліваюць сваё існаванне (экалогія). Так званае *«назіранне прыроды»* ... ёсць першымі нясмелымі спробамі масавай свядомасці набыць такое ўспрыманне.

Галоўная асаблівасць успрымання бачыцца ў тым, што яна не звязана ані са спажываннем, ані зніжэннем каштоўнасці тых ці іншых багацця. Імклівае падзенне сокала на здабычу, напрыклад, нехта з нас успрымае як драму эвалюцыі, а нехта – як пагрозу сваёй вячэры...

**Развіццё ўспрымання – вось адзіна праўдзівы творчы бок справы ў наладжванні такога адпачынку.**

Гэты факт надзвычай важны, а яго патэнцыйныя магчымасці для паляпшэння «лепшага жыцця» пакуль што мала каму ясныя... Пасапраўднаму развіваць амерыканскія рэсурсы для дзейнага адпачынку на ўлонні прыроды значыць развіваць успрыманне. А ўсе астатнія дзеянні, якія мы называем развіццём актыўнага адпачынку на ўлонні прыроды, у лепшым выпадку ёсць спробамі запаволіць ці замаскаваць працэс зніжэння каштоўнасці.

Ахвотнік здабываць і цешыцца з трафеяў -- гэта, мовіць так, адроджаны пячэрны чалавек. Пагоня за трафеямі ёсць выключным правам юнацтва, радавога і асабістага, і не патрабуе апраўданняў.

Трывогу нясе той цяперашні паляўнічы, які так і не дарос да іншай патрэбы – менавіта ў самотнасці, успрыманні або дзейным судакрананні з прыродай; гэтая патрэба так і не занялася ў ім, а можа, і ўвогуле страцілася. **Гэта матарызаваны мураш.** Разам з такімі, як сам, ён кішыць на кантынентах, не навучыўшыся бачыць уласны задні двор і скарыстоўваць дары прыроды, нічога не ствараючы ўзамен. Гэта дзеля яго арганізатары дзейнага адпачынку абясцэньваюць глуш і рыхтуюць штучныя трафеі, глыбока памыляючыся, быццам тым самым яны пасабляюць грамадству.

Аматар трафеяў з-за пэўных сваіх асаблівасцяў сячэ сук, на якім сядзіць. Каб атрымаць радасць, ён павінен валодаць, хапаць і ўрывацца. А таму нечапаная глуш, якую ён сам убачыць не можа, не мае для яго ніякай каштоўнасці.

Адсюль і ўзнікае перакананне, быццам нечапаная глуш нічога не дае грамадству. Людзі, не абцяжараныя ўяўленнем, глядзяць на белую пляму на карце як на марнатраўства, хоць для іншых гэтая пляма ёсць вышэйшай каштоўнасцю. (Няўжо Аляска для мяне нічога не значыць толькі таму, што я ніколі туды не паеду? Няўжо мне патрэбны шасэ, каб спасцігнуць арктычную тундру, гусіныя ўгоддзі на Юкане, кадыякскага мядзведзя, пашы снежных бараноў на Мак-Кінлі?)

Словам, калі прымітыўныя формы дзейнага адпачынку на ўлонні прыроды пажыраюць сваю ўласную базу, тым часам вышэйшыя формы, тым часам, у пэўнай ступені прыносяць задавальненне, амаль ці зусім не шкодзячы зямлі і жывому. **Развіццё транспартных сродкаў без адпаведнага развіцця ўспрымання пагражае нам якасным банкруцтвам дзейнага адпачынку на прыродзе.** І развіваць магчымасці такога адпачынку трэба не сецішчам дарог, якімі паганім цудоўны край, а ўсяляк абуджаючы ўспрыманне ў далёка не дасканалай чалавечай свядомасці.

✪

## SUMMARY

***T**he newspaper introduces readers to Oldo Leopold, a prominent American ecologist, writer and interpreter. This excerpt from the book* **A Sand County Almanac** *covers the issue of public recreation in the countryside.*

## ЛУЖОК LAWN

*Гэта маленькае апавяданне, што належыць пяру пісьменніцы Ленэ Маер-Скуманц, мы адрасуем дзецям Беларусі, каб яны, як і новы іхні знаёмы Ксаверык, вучыліся б р а ц ь в а ч ы м а .*



# Краявід

Ксаверык сапе ад напругі, але адольвае апошнія метры і ўзлазіць на вяршыню.

Нейкая чорная птушка кружляе ў небе й крычыць. Унізе па дарозе, па якой павольна-павольна ўзбіраецца тата, коцяцца камяні. І ўсё ж тут наверсе ціха, ўрачыста ціха й спакойна.

Ксаверык здымае паходныя чаравікі й ваўняныя шкарпэткі. Ён хоча адчуць пад нагамі мяккую лугавую глебу. Дробненькія жоўтыя й белыя астры цвітуць на кароткіх сцяблінках з густым лісцем.

Ксаверык глядзіць праз імглістую даліну на горы. Горы – гэта сінія хвалістыя стужкі, адна стужка за другой. Як далёка яны цягнуцца, ой як далёка! Ксаверык глыбока ўдыхае паветра. Ён запускае пальцы ног у траву. Ён глядзіць і глядзіць.

"Божачка, як тут прыгожа!"

"Калі ласка, — кажа Божачка, — бяры колькі хочаш".

*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!*



# У Піліпаўку

## Паводле ўспамінаў сучаснікаў

Фота: Валерый Аранчук

*За "бабіным летам" ды залатым лісцепадам сярэдзіны восені краявіды кантрасна зыначваюцца ў пераходзе ад ярага карнавалу да цьмянай аднастайнасці. Лісцёвы покрыў, глядзіш, пацямнеў, зрабіліся чорнымі дрэвы, дождж-імжа-туман перакрылі ўсе далягляды. У кароткім святле дня ледзь выхопліваюцца сілуэты будынкаў, парканаў, самотных падарожнікаў. Вечар і доўгая ноч. Здавён гэты час, пачынаючы з апошніх дзён лістапада і аж да каляднага снегу, звалі Піліпаўкай. Спытайце ў сталага беларуса, што значыць гэтае слова, і ён, ахвотны, распавядзе пра нешта сваё, патаемнае.*

**Чэслаў Булат**

*У піліпаўку воўк нема вые...*
**Янка Купала. Паэма "Курган"**

*...развіднілася і зноў пачынае сутонець, ні сонца, ні блакітнага неба, ні светлых даляў. Развіднелася і сутонее, а дня й не было.*
**Уладзімір Жылка. Дзённік**

### Скрозь туман

***Дзядзька Алесь, саракадвухгадовы:***

"Мы жылі на хутары. У бацькі было шмат авечак. Мо, пад трыццаць штук. Калі пачало падмарожваць, атару з каровамі выпускалі на рунь папасвіцца. Пастух за імі не хадзіў, бо шкоды не было – куды хацелі, туды ішлі. За статкам адно наглядалі, каб ведаць, адкуль займаць, калі пачне змяркацца ды цямнець. А ў Піліпаўку як бывае? Дзень да палудня.

І вось неяк на хутар напаў туман. Я прыйшоў са школы, пакуль паабедаў — зусім звечарэла. Усё зацягнулася нейкай туманнаю мглою. Не было відаць нават блізкіх узгоркаў, дзе пасвіліся авечкі. Бо каровы прыйшлі самі.

Я выправіўся заняць. Але праз паўгадзіны вярнуўся дадому. Туман стаяў сцяною. Я напалохаўся і рушыў назад, каб сказаць дарослым. Мне на падмогу далі малодшага брата і керасінавы ліхтар. Вядома ж, мы хутка заблукалі. Як тыя авечкі. Перасеклі колькі лагчын, двойчы выйшлі на дарогу, якая здалася нам чужой і незнаёмай. Туман перайначыў дрэвы і кусты, ямы і пагоркі. Мы доўга соваліся полем, пакуль не набрылі на хутар суседняй вёскі. У загарадцы з жэрдак стаялі нашы авечкі. Я дагэтуль памятаю бляск іх вачэй, калі мы падыйшлі з ліхтаром.

На наш гоман выйшаў гаспадар, спытаў, адкуль і чые мы, ды паказаў, у які бок ісці назад.

Мы як маглі трымаліся курсу. І праз нядоўгі час былі дома. Бацька палічыў авечкі, а маці ўзяла ў мяне з рук ліхтар і кажа: "Я ўжо хвалявалася. Хацела выпраўляць бацьку вас шукаць".

Гэты выпадак я добра запомніў. Было гэта на пачатку снежня, і дома дарослыя ці не штодзень паўтаралі адно слова – Піліпаўка."

### Ваўкі за млынам

***Дзед Адам, семідзесяцітрохгадовы:***

"У бацькі быў свой млын. Бывала, калі вецер, малолі і ўдзень, і ўначы. Бо дня й не заўважыш – умомант цямнела, а жорны сабе гудуць, паспявай толькі.

Памятаю, ноч. Мелем. Выйдзеш у поле, на вецер – хоць вока пальцам калі, трохі пастаіш, прыслухаешся – агеньчыкі з цемры: бліcь, бліcь. Ваўкі! Падыходзілі, каб на іх, блізка, на метраў пяцьдзесят. Можа, водар мліва прынаджваў... Або, ведаеш, выць пачнуць. Пасядуць на край лесу і цягнуць песню. Далёка чуваць. Вядома, Піліпаўка! Пасля раніцы й вечарэць пачынала. Дык яны, воўчая шкура, збіраліся ў зграі.

Цяпер не тое. Дзе тыя ваўкі, каб выць! І дзе той лес, каб ваўкам было жыць? Тады апасаліся ваўка, каб з двара чаго не пабраў. А цяпер чалавек чалавека бойся..."

### Што ў Піліпаўку спрадзеш...

***Баба Анэта, васьмідзесяцігадовая:***

"Піліпаўка цягнулася да самых Калядаў. І пост называўся Піліпаўскі, ба пачынаўся адразу пасля дня святога Піліпа.

Я была зусім малая і любіла, калі вечарамі збіраліся ў нашай хаце жанчыны з суседніх двароў. Прыходзілі прасці, або проста рабіць якую работу ў гурце. Бывала, увесь вечар спяваюць. А за акном стаіць чорная цемень. Як сажа. Мы, дзеці, баяліся гэтай пары. Бо дарослыя шмат расказвалі, як на Піліпаўку ходзяць ваўкі, свецяць вачамі ды скрыгочуць зубамі. Але паміж вячоркамі гэта й не заўважалася. Памятаю, цётка Зося і яе старэнькая маці спявалі песню, дзе былі словы:

*Ой, белая бярозачка,*
*Бялей майго цела.*
*Не аддаў мяне татачка,*
*За каго хацела.*

Песні былі з журбінкай, вельмі пяшчотныя і чуллівыя. Я драмала, але спаць не ішла, знаходзіла таксама занятак.

Жартавалі. Гульні і забавы, праўда, не падахвочваліся, бо гэта быў час паста. Не рабілі й вяселляў. Каб не дужа зажурыцца на самоце, жанчыны й збіраліся разам, вечаркавалі. Спачатку пралі, а ўжо затым, у Вялікі пост, ткалі.

Калі вырасла і пайшла замуж у іншую вёску, яшчэ гадоў дзесяць да мяне ў хату хадзілі на вячоркі, на попрадкі. А потым неяк усё загасла. Ды і ночы, здаецца, не такія ўжо цёмныя, цяпер поўна гэтай электрыкі..."

### Добра, што ёсць Піліпаўка

***Вадзім, гарадскі жыхар, трыццацігадовы:***

"Піліпаўскі час для мяне не самы кепскі, каб гэта неяк адбівалася на маім настроі. У лепшую пару я вандрую, насычаюся фарбамі, шмат здымаю на фотакамеру. І цяпер знаходжу нейкую асаблівую падставу да гэтага вярнуцца. Сядаю ў крэсла і гляджу свае кіно. Часам запрашаю сяброў,знаёмых. Балазе, вечары доўгія. Паспяваем і пагаварыць, і паглядзець, і гарбаты папіць.

Увогуле добра, што ёсць Піліпаўка. Чалавек павінен прыпыніць хаду, прыслухацца да прыроды; гэта, мабыць, той час, калі чуваць, як стукае яе вялізнае сэрца. Нават калі дождж альбо вецер. Са школы памятаю: "У Піліпаўку воўк нема вые..." У гэтым трэба бачыць загадку й гармонію. Дый, нарэшце, святы пост перад вялікім хрысціянскім святам... Калі напярэдадні *такое* свята, чалавеку лягчэй адужаць морак і слоту."

## SUMMARY

***The time after November 28, when the longest nights and shortest days set in, is known as** Pilipauka **in Belarus (taken from the name of St.Philip), p8.***

***The author poeticises one of the most popular Belarusian winter coats - the** kazhukh **(sheepskin jacket), p9.***



# Што кажух – то не вата...

*—Халадае... Замёрз як чорт.*
*— Бяда вялікая! Апратай кажух —*
*пара ўжо.*

***Гутарка такая***



Кажух -- нешта адвечнае. Як камень, дарога, вятрак. Як набрынялае неба ў зазімак – вось-вось пацярушыцца снег.

Кажух, мабыць, грэе не адно цела, але й душу.

Яго цёплы дух – дух утульнай абжытай вясковасці.

Сцюжа, холад, мароз чалавеку не страшныя — ўраз лагаднееюць, калі плечы аблягае мяккая касмыляватая шэрсць аўчыны.

Печ і кажух, здаецца, дзве тыя рэчы, без якіх чалавеку не ўжыцца ў родны ландшафт, у рэаліі жыццябыту, у спаконвечны механізм прыроды, дзе ўнутранае, хатняе, і вонкавае, знадворкавае, паядналыя гарманічна.

Кажух – сынонім надзейнасці. Паслухаем, што распавядае на гэты конт Карусь Каганец: “Праехалі яшчэ вярсты са дзве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытае: “А можа, кажух, паніч, надзенеш? — А добра, бо штось халаднавата. – Даў яму кажуха апрануць, і едуць далей. Ужо і да двара блізка, ажно бачыць гаспадар, што паніч неяк бледнаваты, дык пытае ў яго: — А што, панічу, не сцюдзёна цяпер? — О, не! Цяпер цёпла. – А можа, паніч есці хоча? — О, і дужа хачу. – А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата.”

Кажух выклікае мноства асацыяцыяў, можа, нават іх бясконцы ланцуг: *сані, лес, валёнкі, лёд, рукавіцы, каляды, шэрань...* Падоўжце гэты слоўнік — і вам, можа, таксама захочацца апрануць кажух ды выйсці на двор. Вядома, калі за вакном сіні вечар і ў пахаладзелым паветры спрабуюць лёт першыя сняжынкі.





** і ў будзень, і ў свята. Беларускія кажушкі. Кобрынскі, Мотальскі, Мастоўскі строй. XX стагоддзе.*





*Фота: з кнігі Міхася Раманюка “Беларускае народнае адзенне”. Мінск, 1981.*



*Фота: Валерый Дранчук*



# Таемныя мясціны Вялікабрытаніі

## Людзей просяць не шукаць іх, а толькі быць удзячнымі за тое, што яны ёсць

*Па ўсёй Брытаніі — ад схаванай за далеччу вёрст лугавіны да камяністае выспы - раскіданы запаведнікі, што з'яўляюцца ўладаннямі Каралеўскага таварыства аховы птушак. Часам нават сябры таварыства не ведаюць, што гэтыя запаведнікі ёсць у прыродзе. Кэндзі і Дэнісу Этэртонам пашанцавала — ім быў дазволены адмысловы доступ у некаторыя з патаемных мясцінаў, дзе ў далечыні ад чалавека прывольна гняздуюцца рэдкія птушкі. Гэтыя нататкі і ёсць іхняю сціслаю справаздачаю.*

**Н**а скрайнім паўночным усходзе Англіі, дзе графства Нортамберленд, адразу за ўзбярэжжам ляжыць пасак зямлі блізка шасці гектараў. Маргнеш — і прапусціш яго. Але для шматлікіх птушак востраў Кокет — іх родны дом. Падчас шлюбнага сезону не надта малявідная плоская паверхня быццамзасеяна птушкамі. Тут іх тысячы , і сярод гэтага мноства – ружовая крычка, рэдкая разнавіднасць, якой у свеце, на жаль, з кожным годам не большае, а наадварот. Можна ўзяць лодку і праплыць вакол Кокета, але выходзіць на выспу забараняецца. Не выключана, што вас будзе суправаджаць дэльфін.

У 1970 годзе востраў Кокет адышоў у Каралеўскае таварыства аховы птушак, якое з поспехам трымае людзей на пэўнай адлегласці ад яго: нават рэдкі наведнік на востраве можа выклікаць страшны гвалт і трывогу. У 50-я гады на Кокеце птушак было няшмат, сёння – больш за 10 тысяч пар, у тым ліку чатыры разнавіднасці крычкі, гагі і тупікі. Руіны бенедыктынскага кляштару, што раней збіралі тут фальшываманетчыкаў, даюць птушкам выдатны прытулак і зацішак. Нават наглядчыкі, якія абслугоўваюць маяк, не парушаюць спакою.

Кокет – адна з самых тыповых таемных мясцінаў, якія таварыства купіла ці атрымала іншым чынам за 100 гадоў свайго існавання. Боб Скот, кіраўнік запаведнікаў, распавядае: Напачатку таварыства было створана, каб неяк пакончыць з віктарыянскай практыкай упрыгожвання пёрамі дамскіх капелюшоў. Цяпер яна збірае 865000 сяброў, у ім стала працуе 563 супрацоўнікі.Усіх іх яднае гарачае жаданне абараняць птушак ва ўсім свеце.

Маючы агульны гадавы даход прыкладна 20 мільёнаў фунтаў, таварыства валодае альбо распараджаецца тэрыторыямі агульнай плошчай 73700 гектараў. Віды ці асобіны, якім пагражае знікненне, узятыя пад абарону; ёсць выпадкі, калі асяродкі іх гнездавання пашыраны – так, напрыклад, было з чырвоным шуляком.

Некаторыя мясціны, дзе сялібуюць птушкі, знаходзяцца на мацерыку. Яны ахаваны балотамі, густымі зараснікамі жываплоту, паскамі лясістай мясцовасці. Цікава, што асобныя з іх ёсць часткамі запаведнікаў, даступных для публікі, але яны так хітра схаваныя, што наведнікі вартаюцца дадому, не падазраючы,што яны не пабачылі шмат якіх месцаў, дзе птушкі задавальняюцца насалодаю сцішнаты і самоты.

Шмат запаведнікаў Каралеўскага таварыства знаходзяцца пад сакрэтам, бо яны небяспечныя для наведання публікай, але ў большасці выпадкаў гэта робіцца дзеля таго, каб не палохаць птушак. Іншыя запаведнікі створаны там, дзе прамысловае развіццё нясе пагрозу грамадству. Напрыклад, таварыства купіла вялікую плошчу зямлі ў раёне Чорнае выспы ў Паўночна-шатландскім нагор'і, каб перашкодзіць распаўсюджванню там мясцовых нафтавых усталёвак за кошт птушыных прытулкаў.

Таварыства мае значную частку зямлі ў выглядзе дароў альбо завяшчанняў. Адзін запаведнік, атрыманы з гэткага чыну, — Даліна Феяў што на паўночным шатландскім узбярэжжы. Маёр Чарльз Джон Шоу з Тардароха завяшчаў яго таварыству ў 1979 годзе.

Ніхто не ведае, адкуль пайшла назва Даліна Феяў, але мясціна пераховўае адчуванне чароўнасці, казачнага характва. Не пазначаны нават на картах, гэты запаведнік зрэдку наведваюць і самі супрацоўнікі таварыства, таму ягоныя сялібнікі — некалькі коршакаў, птушак-ныркоў ды плісак -- знаходзяць тут поўны спакой. Нават глупышы, звычайна — марскія птушкі, якія любяць скалы і шырокі прастор, прывабленыя гэтай запаведнай далінай. Лічаныя мясцовыя жыхары, якія ведаюць месца, трымаюць тайніцу пры сабе, разумеючы меру адказнасці.

У штаб-кватэры Каралеўскага таварыства ў Сэндзі (графства Бедфордшыр на паўднёвым усходзе Англіі) дасье на Даліну Феяў абмежаванае некалькімі старонкамі, дзе гаворыцца пра млынавую сажалку, пра нарыхтоўку тут гліны і пра тое, як замёрзлай вадою (лёдам), узятаю з глінных кар'ераў, скарыстоўваліся дзеля складскіх лядоўняў. Аднак, бадай, ніякія звесткі не перадаюць праўдзівай атмасферы самой мясціны. Нават сухія, няўражлівыя інспектары вяртаюцца адтуль са словамі захаплення яе красою.



Выспа святароў — яшчэ адно патаемнае месца каля заходняга ўзбярэжжа Шатландыі. У сонечныя дні яна можа падацца ідыліяй – з разлеглымі горнымі хрыбтамі ды плоскімі далінамі; зімой зазвычай малюнак мяняецца. У значнай меры гэты востраў — балота з невялікімі, там-сям раскіданымі азёрамі. Буравеснікі ды іншыя марскія птушкі, якія сялібуюць там, амаль не бачылі людзей з 1977 года, калі два чалавекі з Лондана, уцякаючы ад законнага пакарання, хаваліся на выспе 230 дзён, сілкуючыся варанай рыбай ды гарбатаю, настоенай на каранях.

Зноў жа, ці не галоўнай пагрозай навакольнай прыродзе з'яўляецца паўсюднае корпанне чалавека; нават сучасны вайскова-абаронны механізм не прычыняе птушкам такой турботы. Характэрны прыклад – выспа Пілсі. Гэта хаатычна раскіданыя салёныя балоты і міжпрылівыя гразевыя водмелі ў Чычэстэрскай гавані на паўднёвым узбярэжжы Англіі. Пілсі выдаецца з ажыўленага вайсковага вострава Торні, аднак менавіта Пілсі — сусветна важнае месца птушыных прытулкаў, якія ахоўвае ўзброеная стража, прапускаючы сюды адно тых, у каго ёсць дазвол уладаў.

Ва Уэльсе ёсць нават такі патаемны запаведнік, на які ўвогуле мала хто мае шанец патрапіць. Часткова гэтая скрытнасць тлумачыцца просьбаю ўладальніцы, чый мужнябожчык так любіў гэтае месца, што яна яго мае амаль за святыню. Аднак, апрача ўсяго, гэта й адно з самых важных месцінаў, дзе гняздуюцца ружовыя крычкі.

Не прыгнечаныя прысутнасцю чалавека куткі, пра якія ішла гаворка, ратуюць птушак ад жорсткага прэсу і даюць ім неабходны адпачынак – ад прамысловага наступу, неспакою, засмечанасці навакольнага асяроддзя. Людзей просяць не шукаць іх, а толькі быць удзячнымі за тое, што такія мясціны ёсць.

*Паводле:*
***часопіс "Англія", часопіс "Тэлеграф", 1992.***

### Актуальнае пасляслоўе

Рэдакцыя звязалася з Заходне-Беларускім таварыствам аховы птушак (г. Гродна), каб высветліць адно пытанне: *ці плануецца аналагічная практыка набыцця зямлі (шляхам выкупу або іншым чынам) дзеля стварэння на ёй ахоўных асяродкаў?* Нам адказаў прэзідэнт Таварыства **Аляксандр Вінчэўскі.**

*--Хоць выпадкаў такіх,-* зазначыў ён,*- яшчэ няма, пра гэта ўжо варта думаць і паціху рыхтаваць грамадскую думку. Пра сталую практыку гаварыць пакуль што заўчасна; трэба быць рэалістамі: выкупленая за вялікія грошы тэрыторыя можа ўраз апынуцца ў невядома чыіх руках згодна з якім-небудзь чарговым указам.*

*Сэнс паўстане тады, калі шмат што зменіцца ў дзяржаве і грамадстве,калі ўласнік – хто б ён не быў – атрымае праўдзівыя ды поўныя гарантыі.*

*Можна парадавацца за нашых суседзяў-палякаў,* --адзначыў А.Вінчэўскі.*--Там ужо ёсць аналагічныя прыклады і гэтыя працэс ідзе досыць шпарка. Спадзяюся, такая перспектыва чакае і нас.*

SUMMARY

**T*his article will acquaint you with "secret places" in Great Britain where the complete absence of humans assures tranquillity for species on islands and coastlines.***



## Дазвольце прадставіцца: інспектар экалагічнай міліцыі...

*Добры дзень, рэдакцыя "Белавежскай пушчы"!*

Прычынай майго ліста стала знаёмства з Вашай газетай, больш дакладна, з адзіным яе нумарам за мінулы год, які трапіў да мяне выпадкова і ў якім я знайшоў шмат цікавага. Ідэя прыродалюбнасці, ідэя выратавання людзей перад пагрозай экалагічных катастроф сёння аднолькава надзённыя, а іх спалучэнне на старонках газеты робіць выданне трапяткім і па-сучаснаму праблемным.

Аднак хачу сказаць і пра іншае. Менавіта канкрэтныя дзеянні па недапушчэнні парушэнняў, а таксама меры да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства могуць шмат чаго змяніць і ў нашым штодзённым жыцці, і ў псіхалогіі паводзін людзей. Гэтай тэматыкі ў газеце, здаецца, бракуе. Хоць факты, як кажуць, ёсць.

Крыху пра сябе. Я пастарункавы інспектар па экалогіі, старшы лейтэнант міліцыі Лідскага гаррайаддзела унутраных спраў. На пасадзе другі год. Разам са мной яшчэ два супрацоўнікі. Згодна з нашымі абавязкамі, мы ў пэўным сэнсе нясем службу спрыяння (садзеяння) усім сферам дзейнасці чалавека ў пытаннях недапушчэння парушэнняў, што датычаць навакольнага асяроддзя. Працуем і ў горадзе, і на раёне. Кола функцый досыць шырокае – ад праверкі "сертыфікатаў адпаведнасці" на рынках, кантролю санітарна-экалагічнага стану гарадской і сельскай мясцовасці да выяўлення і прадухілення фактаў браканьерства. Маем пэўныя вынікі працы, прапановы.

Справа новая, нават не ведаю, ці ёсць яшчэ дзе-небудзь у Беларусі такія падраздзяленні. Супрацоўнікі пры ДАІ, якія замяраюць СО і складаюць адміністрацыйныя пратаколы за пашкоджанне газонаў і зялёных насаджэнняў, толькі збольшага нагадваюць нашу інспекцыю. Мы, напрыклад, маем законную магчымасць не толькі знайсці парушальніка, пагутарыць з ім, паўшчуваць, але і прыцягнуць да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, правесці, калі спатрэбіцца, грунтоўнае расследванне, распачаць любыя дзейныя захады, каб паправіць становішча.

Я, адным словам, за стварэнне "экалагічнай міліцыі", за ўпарадкаванне навакольнага асяроддзя самымі дзейнымі сродкамі, што і спрабуе зрабіць наша мясцовая ўлада.

Знаёмства з Вашай газетай падказала мне яшчэ адну магчымасць пашырэння нашага спрыяння — я гатовы падзяліцца першым набытым досведам у справе, якая мне падабаецца і мусіць зрабіцца важнай для ўсіх нас. Застануся ўдзячны, калі зацікавіў Вас і Вашых чытачоў.

З павагай,
***Уладзімір Грачоў***
г.Ліда
Гродзенскай вобласці.

***Ад рэдакцыі.*** *Ваш ліст, Уладзімір, пераконвае ў тым, што кола людзей, якія так ці інакш абараняюць нашы біясферныя каштоўнасці і нашы правы на бяспечнае асяроддзе пражывання, пашыраецца. Тое, пра што Вы напісалі, дае ўсе падставы сімпатызаваць і Вашаму гораду, дзе ёсць клапатлівае гаспадарства ў асобе ўлады, і Вам асабіста – за неабыякавасць да нашай газеты і службы, якую Вы абралі. Лічыце, што мы дамовіліся аб супрацоўніцтве, у чым яшчэ не раз пераканаюцца і нашы чытачы. Поспехаў Вам і ў Вашай асобе ўсім жыхарам Ліды і яе ваколіцаў.*



** сцежкі векавога Радзівілаўскага парка ў Нясвіжы ўсё яшчэ шчодрыя на асалоду і таямніцы.*
*Фота: Неруш-прэс*

## Людзі мала зважаюць на стан прыроды

*Добры дзень, рэдакцыя!.*

Зноў вітае Вас Вася Сурганаў.

Гэты раз я хачу сказаць пра нашу ўвагу да прыроды. Чытаючы газеты, слухаючы радыё і тэлебачанне, я пачынаю ўсё больш разумець, што прыроднае асяроддзе з кожным годам бяднее і нават пагражае ўсім нам небяспекай з-за вялікай забруджанасці. Асабліва церпяць рэкі й азёры, спусташаецца лес. А мы ж іх так любім! Такія словы гаворым пра іхнюю карысць і красу. Дык чаму ж нашы словы й пачуцці нічога не значаць? І чаму яны не кранаюць улады, якія быццам не заўважаюць прыгнёту прыродных крыніц?

Цяпер і людзі мала зважаюць на стан прыроды. Больш гавораць, спрачаюцца пра палітыку. Можа, таму што газеты зрабіліся палітыканскімі. Паглядзіце, колькі палітычных выданняў – "Звязда", "Советская Белоруссия", "Чырвоная змена", "Семь дней" – гэта тыя, што я ведаю. А колькі яшчэ абласных. А якія ў іх тыражы, перыядычнасць. Некаторыя выходзяць 5 разоў на тыдзень! Гэта задавальняе палітыкаў. А мяне нават крыўдзіць, бо ў Беларусі вельмі мала прыродалюбных выданняў. Я, напрыклад, ведаю два: газету "Белавежская пушча" і дзіцячы часопіс "Лесавік". Больш – не!

Лічу, што такіх выданняў павінна быць больш. Каб людзі чыталі іх і разумелі: калі не стане прыроды, мы не зможам існаваць, не зможам жыць.

Я заклікаю ўвесь беларускі народ: "Любіце прыроду, любіце Радзіму!"

***Вася Сурганаў,***
*10 гадоў*
г.п. Бялынічы
Магілёўскай вобласці.

***Ад рэдакцыі.*** *Ліст нашага ўдзячнага чытача атрымаўся востры і наступальны. І зусім справядлівы. Што датычыць экалагічных выданняў, дык Вася Сурганаў, мабыць, таксама мае рацыю, бо не кожнае з іх можна назваць* ***прыродалюбным.***

## "Энергетыка ў газеты нейкая асаблівая..."

*Кожны водгук на публікацыю ў газеце – рэч, зразумела, прыемная і адметная для тых, хто ладзіць выпускі. А калі выказаная ацэнка датычыць не пэўнага артыкула альбо нават нумара, а ўсёе газеты як перыядычнага выдання, гэта ужо падзея. Пра "Белавежскую пушчу" напісала "Настаўніцкая газета". З надзвычайным разуменнем нашае працы, нашых намаганняў, з высакародным жаданнем падтрымаць незалежнае экалагічнае выданне. Мы шчыра ўдзячныя аўтарцы Тамары Кароткай за водгук і добрае слова, за веру ў нас, нашых чытачоў і падпісчыкаў. Мяркуем, некалькі фрагментаў рэцэнзіі не будуць лішнімі і для нашага "Кола".*

На сённяшні дзень сярод беларускамоўных выданняў газета "Белавежская пушча", бадай што, самая дасканалая з пункту гледжання рэалізацыі сваёй канцэпцыі, культуры мовы, мастацкаграфічнага афармлення.

Мэта выдання – экалагічная асвета і экалагічнае выхаванне. У наш час, пазначаны чорным таўром Чарнобыля, такіх выданняў катастрафічна не стае, а тыя, што маюцца, на фоне сваіх субратоў па рынку друкаванай прадукцыі выглядаюць больш чым сціпла.

Да таго ж ведамасная прыналежнасць не дазваляе ім унікнуць пэўнай заангажаванасці і асцярожнасці. Прыродаахоўнаму выданню, каб мець плён у сваёй дзейнасці, трэба быць незалежным. Газета "Белавежская пушча" менавіта такой і з'яўляецца.

... Усё падпарадкавана адзінай мэце: багавейлівасць перад Яе Вялікасцю Прыродай і засцеражэнне ад экалагічнага бяспамяцтва. Усе ілюстрацыйныя матэрыялы, а гэта і фотаздымкі, і рэпрадукцыі вядомых і невядомых твораў жывапісу і графікі, і замалёўкі з натуры, і разнастайныя элементы графічнага афармлення тыпу віньетак, заставак і інш., вызначаюцца бездакорным густам, любоўным і пашанотным стаўленнем да аб'екта свайго адлюстравання і чытача адпаведна.



Родная мова для "Белавежскай пушчы" — гэта часцінка той самай прыроды, голас душы чалавечай, якім нас узнагародзіў Бог для пошуку свайго месца ў ёй. Прырода і мова – аднаго роду – жаночага, таму і патрабуюць пашаны да сябе і заступніцтва. У адваротным выпадку – тая бездань нематы і змроку, якая чалавецтву ўжо прыадкрылася. Гэта Чарнобыль. Фізічны і духоўны.

Каб не быць галаслоўнай, прывяду прыклад сапраўды прыгожага пісьменства з №1 за 1998 год газеты, хаця па жанры гэта ўсяго толькі парада-заклік: "Браткі-беларусы! Вясна на падворках... Вітайце буслоў, што вярнуліся ў край наш лясны ды азёрны, да роднае хаты, да мілага ўлоння прыроды. Ладкуйце буслянкі. Цягніце на дрэвы, на вышы будынкаў бароны ці колы з падводаў – рознаўсялякі прыдатны рыштунак. Хай ведаюць птахі: на гэтай зямлі іх заўсёды чакаюць. Хай кожны, хто шчасця жадае сабе і нашчадкам, саўе яго разам".

Суправаджэнне "Белавежскай пушчы" высокамастацкімі літаратурнымі творамі – гэткая ж яе адметнасць, як і згаданы ўжо густоўны дызайн.

Для мяне відавочна, што газета, пра якую ідзе гаворка, павінна стаць неад'емнай часткай школьнага жыцця. Для настаўніка яна можа быць і крыніцай каштоўнай інфармацыі, і падручным дапаможнікам у выхаваўчай рабоце, і нават сродкам экалагічнага навучання. У чацвёртым нумары за 1997 год (рубрыка "Ліцэй") змешчаны, напрыклад, навучальны тэст "Беларускі лес", які з поспехам можа выкарыстаць на сваіх уроках настаўнік-біёлаг. Вялікую прастору для творчага сурпрацоўніцтва дае таксама газета настаўніку роднай мовы і літаратуры. Лепшыя сачыненні вучняў пра тую ці іншую мясціну, помнік прыроды ці аб'ект культурнай спадчыны можна даслаць для серыі "Аўтограф" (газета ў газеце), выпуск якой мяркуе ажыццявіць "Белавежская пушча". Іх публікацыя (цалкам ці фрагметаў) падахвоціць многіх да творчасці. Багата матэрыялаў у выданні для сваёй насценнай газеты знойдуць і вучні. "Белавежская пушча" паслужыць ім таксама ўзорам таго, якой павінна быць сапраўдная газета.

... Упэўнена: пасля першага знаёмства з газетай яна стане жаданым госцем у вашым доме, школе, гасцёўні. І нават прачытаўшы яе "ад коркі да коркі", у вас наўрад ці падымецца рука выкарыстаць яе "не па прызначэнні". Энергетыка ў газеты нейкая асаблівая...

***Тамара Кароткая***
("Настаўніцкая газета", 13 чэрвеня, 1998)

### SUMMARY

**In their letters and replies, our readers complain that people have stopped noticing nature all around them, and that the media is overpoliticised.**

# Устаяць перад сілаю ўладнага прагматызму

## Здзіслаў Мураўёў: "Жаданне сумясціць ахову прыроды і рэкрэацыю амаль заўсёды заканчваецца на карысць рэкрэацыі, на карысць гаспадарчага выкарыстання каштоўных рэсурсаў..."

*са старонкі 5*

заказнікі — 5,4 працэнта, дзе рэжым аховы вельмі адносны. Што ж застаецца на нацыянальныя паркі і адзіны запаведнік? Кволая доля: адпаведна 1,1 ды 0,4 працэнта. Таму ацэньваць прыродаахоўную значнасць гэтых тэрыторый, іхні, так бы мовіць, уклад у захаванне біялагічнай разнастайнасці трэба вельмі асцярожна і стрымана. Не кідацца ў ілюзіі і не махляваць. Бо адказнасць надзвычай вялікая. Мы не такія багатыя, каб ураз, без аглядкі разменьваць каштоўнасці, выціраць аб іх ногі. Па-трэцяе. Рухлівыя дбайцы на ніве "акумулявання валюты" якраз на каштоўнасці стаўку і робяць. Гэта значыць, шукаюць найкарацейшыя ды найлягчэйшыя шляхі.

**— Каб і тавар быў прыстойны, і каб час не губляць...**

—І каб усё гатовае было. А дзе ў нас ёсць больш-менш напрацаваны сервіс, традыцыі, кадры? Вядома ж, гэта нацыянальныя паркі.

**— Вось там і гамана...**

— Лічу такі курс вельмі *шкодным* для найбольш каштоўных прыродных тэрыторый і *неапраўданым* з гледзішча перспектывы: замаруджваецца рацыянальнае выкарыстанне звычайных прыродных тэрыторый, якія маюць вялікі рэкрэацыйны патэнцыял, а значыць не развіваюцца цэлыя рэгіёны, скажу нават больш, яны занепадаюць, і ў рэшце рэшт стрымліваецца развіццё самой рэкрэацыі і турызму. А там, калі па-разумнаму і паслядоўна, з падтрымкай бюджэтных сродкаў ды з удзелам грамадскасці нешта, хай сабе не адразу, рабіць, — вынік абавязкова будзе.

**— У гэткім напрамку не зацікаўленая ўлада. А ўлада – гэта вузкае кола людзей, якія, да ўсяго, не абцяжараныя гуманістычным светабачаннем. Дарога, якую нядаўна праклала адміністрацыя на гару Маяк, што ў Браслаўскім нацыянальным парку, — бадай, самы буйны адлік на рахунках самаўладнага і супрацьзаконнага панавання на эталонных землях Беларусі. Пра гэта газета пісала ў мінулым нумары. Я ведаю, што дарога пабудаваная ўжо, і на гару Маяк можна прымчацца з ветрыкам... Хіба не абраза, кінутая пешым турыстам, якія мелі асалоду менавіта з той, адвечнай дарогі? Дый усім нам. Бо цынічна папіхаецца закон аб ахоўных тэрыторыях, воля грамадства, думка адукаванай часткі насельніцтва.**

**Яшчэ прыклад, больш прыватны. На тэрыторыі Міжазёрнага заказніка, дзе вёска Будзілы, на беразе возера Снуды стаіць сярод лесу хаціна на палях. Лічы, самае сэрца нацыянальнага парка, а тут – прыехалі! — паляўнічая вышка. Як доказ – раскіданая прынада для звяроў... Вось так цяпер здабываецца валюта.**

— Прыклады тыповыя. Яны яскрава пацвярджаюць выснову, што жаданне сумясціць ахову прыроды і рэкрэацыю амаль заўсёды заканчваецца на карысць рэкрэацыі, на карысць гаспадарчага выкарыстання каштоўных рэсурсаў...

**— Горш, Здзіслаў Феліксавіч! У тым жа Браслаўскім парку ахова прыроды па вялікім рахунку яшчэ й не пачалася, а гаспадарчае асваенне ідзе поўным ходам.**



* *фотамастак і этнограф Ян Булгак як мала хто паказаў Беларусь чароўнай і надзіва адметнай, самабытнай.*

— Бо вынікі такога гаспадарання адчувальныя, адно-два паляванні за валюту даюць салідны прыбытак. Адразу відаць, чым трэба займацца.

А дэградацыя прыродных экасістэмаў адбываецца непрыкметна, прырода доўга маўчыць. І Вы заўважалі такую рэч? Лічбы, якія характарызуюць прыбытковасць рэкрэацыйнага выкарыстання, сустракаеш надзіва часта. Напрыклад, я не раз чуў і чытаў, што ў ЗША прыбытак на адзін долар, які ідзе на ўтрыманне нацыянальных паркаў, складае 10-15, а часам сягае 40 і больш "зялёных". А вось разлікі, якія паказваюць іншы бок, — наколькі пры гэтым збяднелі ці ўвогуле занепалі прыродныя экасістэмы, наколькі прырода страціла сваю прывабнасць, — свядома прыхоўваюцца. Зрэдку што-небудзь праскочыць. Хоць спецыялісты-экалагі апошні час не застаюцца ўбаку, выказваюць занепакоенасць і трывогу. І ўжо ёсць зрухі. Шматлікія краіны робяць захады, каб паменшыць колькасць наведнікаў у нацыянальныя паркі: у Англіі — праз стварэнне мясцовых паркаў, у Польшчы – шляхам развіцця пазнавальнага і краязнаўчага турызму. Або, як у іншых краінах, праз высокую плату за наведванне ціхіх куткоў.

Што да Беларусі, на вялікі жаль, на нашу глебу пераносіцца толькі першая частка багатага замежнага досведу, – тая, якая сведчыць пра высокія прыбыткі нацыянальных паркаў. Таму й не выпадкова, што сёння, як Вы кажаце, такая гамана вакол нашых нацыянальных паркаў "Белавежская пушча", "Браслаўскія азёры", "Прыпяцкі" і адзінага Бярэзінскага запаведніка.

Можна сказаць, мы робім прыкладна тое, што іншыя краіны, не маючы ні свайго, ні чужога досведу, рабілі 100-50 гадоў таму.

**— На чужых памылках вучацца. А тут свядома не заўважаецца, ігнаруецца тое, што даўно відавочна?**

— Ігнаруецца і Закон, паводле якога "захаванне эталонных і ўнікальных комплексаў і аб'ектаў прыроды ёсць найпершай задачай нацыянальных паркаў".

**— Мы цудоўна разумеем, што без палітычных зменаў законы ў нашай краіне працаваць не будуць. Якая ж перспектыва?**

— Магу смела сцвярджаць, што пры сённяшніх падыходах мы ў хуткім часе не пазнаем нацыянальных паркаў, як не пазнаём сёння,





## Разведка прыродных дзівосаў — занятак не марны

*Спасцігнуць гармонію, веліч і хараство роднай прыроды можна не толькі ў запаведных нерушах, але і побач з домам, у парку ці ў лесе, дзе для дапытлівых вачэй яшчэ шмат прыгодных мясцінак.*

*Гэтая бярозка, што расце ў сотні метраў ад чыгуначнага паўстанку Маладзечанскага кірунку, вартая шчырага захаплення й замі-лавання. Яе кара прыўкрасна паўтарае наш беларускі арнамент.*

*"Разведка" прыродных дзівосаў — зусім не марны занятак для душы. Сёння гэты хлоп-чык перанясе свае ўражанні ў краязнаўчы нататнік, а заўтра, магчыма, папоўніць яшчэ не вельмі шчыльныя рады абаронцаў зялёных каштоўнасцяў або... падпішацца на газету "Белавежская пушча".*

# БЕЛАЯ ВЕЖА

BELAYA VEZHA

***Шаноўныя сябры! Калі вы прыхільна ставіцеся да нашай газеты, разумееце сэнс і значнасць агульнай патужнасці ў справе захавання прыроднай і нацыянальнай спадчыны, вы можаце нам дапамагчы.***

*Сёння выдаць нумар газеты стала надзвычай цяжка. І гэта пры тым, што рэдакцыя працуе без штату й памяшкання, траціць сродкі выключна на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, паперу й паслугі друкарні. Але нават і так сабекошт асобніка ў параўнанні з папярэднім выпускам падняўся ў некалькі разоў.*

*Кідаць справу мы пакуль не збіраемся. Трэба ісці далей, выпускаць патрэбнае выданне, якое мусіць перш-наперш застацца незалежным. Мы не трацім надзею і на дапамогу дзяржавы. Напрыклад, з павагай ставімся да грошай падаткаплацельшчыкаў, а таксама штрафных налічэнняў за прыродакарыстанне, з якіх збіраецца* ***бюджэтны фонд аховы прыроды.*** *Паводле ўсіх законаў правільнага сэнсу, там ёсць частка сродкаў і на выданне нашай асветна-публіцыстычнай газеты.*

*Гэтая частка – кропелька ў акіяне. Летась у праве атрымаць сваю долю нам быццам і не адмовіла Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, аднак сімвалічнай сумы – крыху больш за два сярэднія заробкі – хапіла на тое, каб заправіць парашком выладаваную друкарку.*

*Гэта не дзесяць мільярдаў рублёў для патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ-- біялагічная асацыяцыя?) з тае самай казны...*

*Не выключаецца, што і сёлета газета не атрымае з прыродаахоўнага бюджэта той жа належнай нам долі.*

*А ладзіць выпускі трэба. Год наперадзе.*

***Якім чынам вы можаце нам дапамагчы?***



***Вось наш разліковы рахунак.***

*Калі вы сапраўдны наш сябра й прыхільнік, паспрабуйце знайсці ў сваім горадзе ці мястэчку прадпрыемства, фірму, любую іншую крыніцу фундацыі. Раскажыце пра наша выданне і пераканайце ў магчымасці і неабходнасці дапамагчы нам. Памер сумы тут не самае галоўнае. Істотны водгук, гатоўнасць ахвяраваць на развіццё незалежнай экалагічнай газеты. Кожны ўдзельнік экафундацыі будзе годна прадстаўлены ў нашых выпусках.*

*Што да падпіскі, і тут ёсць рэзервы. Напрыклад, усе мы маем родзічаў, сяброў і знаёмых, якім разам з калядной паштоўкай можам пакласці й квіток на падпіску ў якасці падарунка...*

***Жадаем дабра й памыснасці!***

*разліковы рахунак*
***газеты Белавежская пушча***
*№3015234180011*
*Прыёрбанк Акцыянернае таварыства Галаўны філіял па Мінску і Мінскай вобласці код 777*

*Фота: Валерый Дранчук (Неруш-прэс)*



**К**аляндар

## 29 снежня... Рыхтуемся загадзя?

Паводле экалагічнага календара, дзень **29 снежня** (сёлета гэта аўторак) адзначаецца ўсім светам як **дзень біялагічнай разнастайнасці.** Якім сэнсам напоўніць яго, што зрабіць дзеля ўмацавання нашай свядомасці на карысць прыродаашчадных і прыродапашанотных паводзінаў? У якасці варыянтаў прапануем добрым словам спамянуць наш беларускі лес – ці не самую вялікую каштоўнасць біялагічнай і нацыянальнай спадчыны краіны.

А хіба не вартыя ўхвалы нашы балотна-азёрныя краявіды, дзе перахоўваецца багацце і разнаякасць прыроды, а разам з тым і ключ да генетычнай трываласці нацыі...

Нагадаем, што на Беларусі дзейнічае (гэта значыць, падпісана і ратыфікавана) Канвенцыя аб біялагічнай разнастайнасці, дзе, у прыватнасці, адзначаецца **"экалагічнае, генетычнае, сацыяльнае, эканамічнае, навуковае, выхаваўчае, культурнае, рэкрэацыйнае і эстэтычнае значэнне біялагічнай разнастайнасці і яе складнікаў".** Тут жа, у прэамбуле, адзначаецца неабходнасць **"прадбачыць, папярэджваць і адхіляць прычыны значнага скарачэння альбо страты біялагічнай разнастайнасці ў самым іхнім зародку".**

*Уласная інфармацыя.*

SUMMARY


*The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.*


**К**ола

## Экалогія лініі Паўла Семчанкі

Днямі спаўняецца 60 гадоў мастаку-каліграфу, прызнанаму педагогу, аднаму з першых прыхільнікаў нашага выдання Паўлу Семчанку.

"Асвета, асветніцтва надзіва пасуе Беларусі, — разважаў майстар, трымаючы ў руках першы нумар "Белавежскай пушчы". – Францыск Скарына падаў прыклад на дзесяткі стагоддзяў наперад. Ягоны Шлях не скончаны. Знойдзецца шмат паслядоўнікаў, а Беларусь яшчэ споўніць сваю галоўную – асветніцкую ролю, якую прызнае Еўропа, свет."

"Дарэмна ўсе так пасляшаюць, — кажа сёння мастак. – Людзі ў большасці перасталі арыентавацца на духоўныя каштоўнасці, забыліся на прыроду, культурныя карані, страцілі меру разумнага."

У нататніку майстра час ад часу з'яўляюцца думкі-высновы; спеляцца і пераўтвараюцца ў каліграфічныя кампазіцыі.

*"Бог стварыў мяне, я бог над тым, што я ствараю".*



*"Калі ты займаешся сваёй справай, яна для цябе рытуал".*

*"Не ўсё спасцігнуў, не ўсё зрабіў у імкненні да ісціны і хараства".*

*"Тры жанчыны – беларуска, зямля і прафесія".*

*"Трыяда беларускасці: дубы, муры, мудрасць".*

Каліграфія збліжаецца з экалогіяй. У лініях пісьма шмат пашанотнасці, чысціні і ашчаднасці. Да выразаў *"мелодыя каліграфа", "танец пяра", "барочная лінія"* мы дадаем : *"экалогія лініі".*

* *каліграфічны малюнак "Ружа"*

Права veto

## Каб выжыць, патрэбны дзеянні

Якім чынам і наколькі ў нашай краіне забяспечваюцца ўмовы для здароўя чалавека, экалагічнай бяспекі, сацыяльнай актыўнасці людзей – на гэтае пытанне спрабавалі адказаць удзельнікі Міжнароднай канферэнцыі *"Навакольнае асяроддзе і правы чалавека"*, якую правёў Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль".

Канферэнцыя сабрала за круглым сталом прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх структураў, гасцей з Украіны, Нямеччыны, Швецыі, Турцыі, ЗША.

Увага ўдзельнікаў, у прыватнасці, была звернута на Орхускую канвенцыю, якая канкрэтызуе праблему і якую Беларусь пакуль што не падпісала (паводле афіцыйных заяваў, мае, аднак, падпісаць прыканцы года). Канвенцыя вызначае правы грамадскасці на доступ да экалагічнай інфармацыі, прыняцця важных рашэнняў, якія датычаць навакольнага асяроддзя, а таксама магчымасць кожнага грамадзяніна абараняцца праз суд.

*"Выжыванне будзе ставіцца пад пагрозу, калі ўсё будзе заставацца так, як ёсць"*, — гэтыя словы спадарыні Олсан са Швецыі (партыя зялёных) перасцерагаюць: абмен думкамі яшчэ не ёсць сродкам нашае абароны і нашага выжывання. Патрэбны дзеянні.

На жаль, канферэнцыя не вызначыла якой-небудзь праграмы дзеянняў. Ды і мэты гэткай не ставіла. Што датычыць "засваення пэўных ісцін", спрыянне двухдзённага дыялогу тут несумненнае. Ініцыятары сустрэчы паабяцалі, што матэрыялы канферэнцыі будуць выдадзены асобнай брашурай да канца года, якую бясплатна атрымаюць навучальныя ўстановы, грамадскія арганізацыі і ўсе зацікаўленыя. Звяртацца да Мікалая Паўлава. Тэл. у Мінску 234-22-41. *Уласная інфармацыя.*

Лес -- лёс

## Паразуменне вучонага-прафесара і вясковага ачольніка адзначаны адмысловай прэміяй

Прэміяй Голдмана ў намінацыі "Выспавыя тэрытоторыі" у 1997 годзе ганараваныя Поль Кокс і Вялікі Правадыр Фуёна Сеня (Заходняе Самоа). 43-гадовы вучоны-прафесар і шмат старэйшы за яго вясковы ачольнік знайшлі паразуменне, якое і было ўважана прэміяй экалагічнага фонда.

Вёска Фалеалупа на выспе Савай кантралюе адзін з абшараў нізінавых дажджавых лясоў, якія захаваліся ва ўсёй Палінэзіі. У 1988 годзе урад Самоа паінфармаваў вяскоўцаў, што калі яны не пабудуюць новую школу, навучанне іхніх дзяцей будзе прыпынена. Аднак сабраць грошай на школу, маючы гадавы даход не вышэй як 100 даляраў, жыхары не далі рады. І тады лідэры вёскі пастанавілі прадаць частку лесу, каб пачаць будаўніцтва школы.

Поль Кокс, прафесар біялогіі з Амерыкі, які вывучаў экалогію лесу на Самоа, даведаўся пра ўсё, калі пачуў рокат бульдозераў у лесе за вёскай. Хоць ён быў акадэмічным вучоным і не меў якога-кольвек досведу запаведання тэрыторый, аднак адразу ж прыйшоў да ачольнікаў вёскі з просьбай спыніць высечку лесу, пакуль ён сам не збярэ патрэбную суму.

Вялікі Правадыр Фуёна Сеня першым паверыў гэтай незвычайнай просьбе вучонага і сам прабег тры мілі, каб спыніць дрывасекаў.

Праз шэсць месяцаў, калі Кокс сабраў неабходную суму, было падпісана Пагадненне Фалеалупа, згодна з якім донары адпускалі грошы для пабудовы школы, а жыхары вёскі бралі абавязацельства працягваць ахоўваць лес на працягу яшчэ 50 гадоў. Пагадненнем дазвалялася выкарыстанне лесу мясцовымі жыхарамі для збору зёлак, будаўніцтва каноэ ды іншых патрэбаў, але забаранялася ўчыненне лесу якога-кольвек істотнага ўрону. Школа была пабудавана, і на плошчы 30000 акраў (прыкладна 120 тыс. гектараў) быў арганізаваны рэзерват. Кокс дапамог арганізаваць яшчэ адзін рэзерват плошчаю 20000 акраў у дажджавых лясах Тафуа. *Крыніца: Web-site Экалагічнага фонда Голдмана.*

Спадчына

## Зялёныя Каласавіны

Чарговыя Каласавіны – традыцыйнае літаратурнае свята, якое штогод адзначаецца на радзіме Якуба Коласа і ў ягоным доме–музеі ў Мінску, прайшлі сёлета пад дэвізам вяртання да эколага-этычнай спадчыны песняра.

Колас, як вядома, быў выдатным знаўцам прыроды і філосафам-апявальнікам яе хараства, велічы й мудрасці.

*Сёння, калі нашыя ўлады не чуюць голасу вучоных і пісьменнікаў у абароны прыроды, постаць народнага пясняра можа стаць сапраўдным аўтапартрэтам як для ўладных структур, так і грамадства,* — такую думку выказаў дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі Нацыянальнай акадэміі навук акадэмік Віктар Парфёнаў. *Уласная інфармацыя.*

Засцярога

## Не спальвайце лісце, яно патрэбна зямлі!

Не трэба спальваць лістоту, гавораць вучоныя-экологі, лепш пакідаць яе на зямлі або кампаставаць у кучах ды мульчыраваць ёю ўсялякае садзіва.



Водар прэлага лісця ёсць пахам самой прыроды, ён шчодра апяваўся паэтамі. І наадварот: час лісцёвых вогнішчаў тоіць вялікую небяспеку. Рэч у тым, што пры спальванні вылучаюцца рэчывы, якія шкодзяць органам дыхання і сардэчна-сасудзістай сістэме, ёсць мутагенамі і канцэрагенамі.

Варта памятаць: раслінны кампанент больш карысны й каштоўны за гной, бо ў апошнім багата нітратаў. Прыгатаваць лісцёвы кампост нескладана: кожны слой лісця перасыпаюць зямлёй, паліваюць. Праз год – цудоўнае ўгнаенне для якіх заўгодна пасадак.

Прэлым лісцем можна з поспехам скарыстоўвацца і ў цяпліцах, яно дае шмат цяпла. Можна падсыпаць ёю ружы й маліну, ахінуць клубніцы, — вільгаць захаваецца даўжэй.

І яшчэ. У лісці хаваюцца на зіму нашы любімыя божыя кароўкі ды іншыя карысныя жучкі-кузуркі, якія ахоўваюць сад-агарод і спрыяюць абагачэнню глебы. *Крыніца: Замежны друк.*

Маю гонар!

## "Родная прырода" і "Лесавік" — самыя "чэсныя" экалагічныя выданні?

Як стала вядома, ёсць "спіс" выданняў, якія рэкамендуе *для абавязковай і шырокай* падпіскі сваім падведамным службам на месцах Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Начальнік упраўлення інфармацыі Аляксандр Мацясовіч патлумачыў гэты захад жаданнем падтрымаць часопісы "Родная прырода", заснавальнікам якога з`яўляецца міністэрства, і "Лесавік" (прыватнае выданне).

**Рэкамендацыі**, аднак, **не абмяжоўваюць правы любой інспекцыі на набыццё і падпіску іншай друкаванай прадукцыі, калі яна адпавядае задачам экалагічнай асветы**, сказаў А. Мацясовіч. Газеце "Белавежская пушча" ніхто ў такой якасці не адмаўляў, падкрэсліў ён.

Як кажуць, дзякуй і за гэта.

Нагадаем сваім чытачам і ўсім зацікаўленым, што **газета "Белавежская пушча" замоўлена ў падпісным каталогу "Белпошты" (стар. 12 ), кошт на паўгода для індывідуальных падпісчыкаў 45 тыс. рублёў, для арганізацый і прадпрыемстваў 60 тысяч.**

**Зрабіце правільны выбар!**

Чырвоная кніга

## Расці, белакапытнік!

Пойма рэчкі Гавязнянкі — левага прытоку Нёмана – спакон веку была багатая на крыніцы. Менавіта каля крыніцаў і любіць расці белакапытнік гібрыдны лекавы, які вы бачыце *на здымку.* Расліна рэдкая. У выніку знішчальнай меліярацыі мясціны яе сялібавання значна скараціліся, а выяўленыя — ўзятыя пад ахову. Адно з такіх – у памежжы Нясвіжскага і Стаўпецкага раёнаў, дзе на хутары Гавязна белакапытнік вярнуўся з нябыцця і хораша разрастаецца. Стаўпецкі райвыканкам вырашыў стварыць тут мікразаказнік (падрабязнасці ў матэрыяле *"Аўтапартрэт з вербалозных галінак"*, гл. бліжэйшыя нумары).

*Фота: Валерый Дранчук (Неруш-прэс)*



# Бруkаванка. Музей пад адкрытым небам.

## Мроя-праект газеты "Белавежская пушча" на трывалым грунце ацалелага рарытэту.

*У Стаўпецкім раёне, досыць багатым на літаратурна-мемарыяльныя і культурныя традыцыі, ацалела памятка дзён, якая з часам і пры належнай актыўнасці культурна-экалагічнай грамадскасці, адпаведных дзяржаўных структур і мясцовай улады можаператварыцца ў надзвычай цікавы музей пад адкрытым небам. Не надта рызыкуючы перабольшыць, можна ўжо сёння казаць пра бліскучыя перспектывы гэтай мясціны. Сюды з ахвотай будуць ісці і ехаць паломнікі, каб адчуць і асэнсаваць хаду няўмольнай цывілізацыі. Зрэшты, збірацца ў дарогу можна хоць сёння.*





*Фота: **Аляксандр Гутоўскі** (Неруш-прэс)*





* *побач з брукаванкай, у сотні метраў пралягае чыгунка на Брэст і бяжыць-спяшаецца Нёман*
* *масціць дарогі браліся выкшталцоныя брукары*
* *зялёная галерэя, рэкрэацыя, схоў*

### Дзедзіч

**С**онца драбілася ў кронах і, здавалася, ціха-зіхцяна падала мне пад ногі... Як даўно я не хадзіў брукаванкай! А там, дзе хадзіў, мабыць, ужо і ўспаміну няма пра адвечную дарогу. Дарогу дзядоў. Дарогу нетаропкіх, але часам борздых фурманак. Дарогу, закалыханую прысадамі, нівамі і нябёсамі.

За Нёманам, што з захаду агінае Стоўбцы, — чыгуначную станцыю з харомністым вакзалам і раённы цэнтр – асфальтавая дарога крута паварочвае ўлева, беручы на нясвіжскі тракт, колісь гасцінец. Поймавая разлога застаецца ззаду.

Але не варта спяшацца. Тут, на гэтай мясціне, трэба спыніцца і споўніць волю яго вялікасці Шчаслівага Выпадку.

Мінуўшы мост, вы зглядзіце пясчаны пачатак яшчэ адной пуцявіны. Быццам страла напятага лука, яна мкне напрамкі ўбок вядомага свету Міра; гэта яшчэ нябліскі свет, але згадаўшы Нясвіж было б нягожа не ўспомніць і Мір. Там, дзе падвянчона над долам схіляюцца вербы, гэтая амаль адрэзаная цывілізацыяй дарога бярэцца ў брук. Калі сонца на небасхіле, цені ад камянёў кладуцца роўным малюнкам, і брукаваны даспех можна ўбачыць здалёку, з самай развілкі.

Гэтую дарогу не трэба паэтызаваць, — яна сама ёсць паэзіяй. А яшчэ гэта вынік майстэрства і напрацаванага досведу. Будаваць шляхі-пуцявіны браліся вопытныя брукары, якія мелі адпаведную школу. І абсаджвалі дарогу не абы-як, а з густам, дабіраючы "букет" дрэваў.

І сёння дарога мае адметны стан, трымае зададзены фасон і асаблівы нораў.

Калі хочаце, гэта ўжо не дарога ў звычайным сэнсе слова, а паркавая алея, рэкрэацыя, схоў, зялёная галерэя. Сюды стаміўшыся, можна прыйсці на шпацыр. Брукаванка досыць працяглая – на першы погляд, вярсты дзве будзе. Роўна, зусім непрыкметна падымаецца ўгору, больш ды больш ахінаючы вас цянётамі кронаў, што венцаносна змыкаюцца ў вышы.

Нечакана скрозь траўна-лісцёвыя зарасці вашае вуха зловіць надзіва блізкі — нібыта прывідны -- шум электрычкі або грукатлівы пошчак таварняка. Гэта зусім не музейнае аздабленне нашага, адкрытага небу, аб'екта-экспаната: побач з брукаванкай, у гранічна зблізканай паралельнасці пралягае чыгунка; прыслухаўшыся да звону рэек, можна пачуць згукі вялікіх разлегласцяў у два канцы: на ўсход – Масква, на захад – Варшава... Дзе яшчэ знойдзеце гэткі сімвалічны збег дзвюх дарожак! Бадай, толькі тут, у Стаўпецкім прадмесці.

Нягледзячы на дзесяцігоддзі, брукаванка выдатна захавалася. Месцамі, здаецца, час не пакінуў і знаку. Дасканалая пукатасць, роўныя, акантаваныя буйнейшымі камянямі берагі-краёчкі. Трываласць і моц.

Несумненна, гэтую дарогу можна без натугі назваць рарытэтам. Як называем рарытэтамі старадрукі, слуцкія паясы, рыцарскія даспехі. Перабольшанне тут калі й ёсць, дык гэта як на чый густ. Дарэчы, здаецца, у Летуве, а можа яшчэ дзе ў свеце ацалелыя брукаванкі знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Як помнікі матэрыяльнай культуры, як помнікі "дзён, што ў нябыт уцяклі..."

Пакуль яны ёсць, варта і нам *успомніць* пра брукаванкі.


SUMMARY

***O**ne can still find ancient stone roads (brukavanki) in certain places around Belarus. One of them has been beautifully preserved in Stolbtsy district, right next to the Moscow-Brest-Warsaw railway line.*



БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання чацвёрты, 1998
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*

Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*

Summary: *Марк Бенц, Аляксандра Годзіна*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53

Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак

Газета надрукавана ў друкарні "Мэджык" (Мінск, вул. В.Харужай, 13)

Падпісана ў друк 13.10.98 Замова № 1333

Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" **10 000 рублёў.**

"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the initiative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES" Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76